# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

№ 6



АЎТАГЕННАЯ СВАРКА.

Фото М. РЫВІНА.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 ГОД

НА ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДНЯК

8-мы ГОД ВЫДАНЬНЯ

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

**„МАЛАДНЯК“** зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую .таратуру

**„МАЛАДНЯК“** на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры

**„МАЛАДНЯК“** будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, аповесьці, поэмы, вершы, драм. творы)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе зьмесьціць шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік

**У „МАЛАДНЯКУ“** будзе давацца багаты аддзел бібліографіі, хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік

## У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі

Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ○ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ○ У 1930 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | На 6 м-цаў | На 3 м-цы | На 1 м-ц | ЦАНА ў розьнічным продажу |
|---|---|---|---|---|
| 3 — | 1 60 | — 90 | — 30 | 40 к. |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-77.

# ЛЕПШАЯ РЭКЛЯМА

## У АДЗІНЫМ У БССР ДВОХТЫДНЁВЫМ ІЛЮСТРАВАНЫМ ЧАС. „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ПРАЦОЎНЫХ ЧЫТАЮЦЬ „ЧЫРВОНУЮ БЕЛАРУСЬ“

**ОРГАНІЗАЦЫЯМ СКІДКА**

Званеце па тэл. №№ 17-12, 7-41 і да Вас будзе высланы працаўнік для прыёму абвесткі

ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ АБВЕСТКІ Ў „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ“ **ГАРАНТУЕ ПОЎНЫ ПОСЬПЕХ**

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

# КНІЖКА-ПОШТАЙ

ВЫСЫЛАЕ ЎСЕ КНІЖКІ НА БЕЛАРУСКАЙ, ЯЎРЭЙСКАЙ, РАСІЙСКАЙ, ПОЛЬСКАЙ, ЛІТОЎСКАЙ, ЛАТЫСКАЙ МОВАХ.. . . . .

ВЫКОНВАЕ ЎСЕ ЗАКАЗЫ НА КНІГІ, ЯКІЯ МАЮЦЦА НА КНІЖНЫХ СКЛАДАХ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА, НА ДРУГІ ДЗЕНЬ.

ДАЕ 30% СКІДКІ ШКОЛАМ, НАРДОМАМ, БІБЛІОТЭКАМ, ХАТАМ-ЧЫТАЛЬНЯМ І ПРЫ КОЛЕКТЫЎНАЙ ВЫПІСЦЫ . . . . .

ПРЫ ПЕРАСЫЛЦЫ РАЗАМ З ЗАКАЗАМ УСІХ ГРОШАЙ—ПЕРАСЫЛКУ „КНІЖКА-ПОШТАЙ“ БЯРЭ НА СВОЙ КОШТ . . . . .

НА ЗАКАЗЫ ДА 1 РУБЛЯ АБАВЯЗКОВА РАЗАМ З ЗАКАЗАМ ВЫСЫЛАЮЦЦА ГРОШЫ; НА ЗАКАЗЫ ЗВЫШ 1 РУБЛЯ ТРЭБА ПРЫСЫЛАЦЬ 25% КОШТУ ЗАКАЗУ . . . .

„КНІЖКА-ПОШТАЙ“—ЗАРАЗ-ЖА АДКАЗВАЕ НА ЎСЕ ЗАПЫТАНЬНІ АБ НОВЫХ, ШТО ВЫХОДЗЯЦЬ, КНІЖКАХ . . . . . .

ЗАКАЗЫ ПРЫСЫЛАЙЦЕ ПА АДРАСУ: МЕНСК, БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА **КНІЖКА-ПОШТАЙ**

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

25 САКАВІКА 1930

N 6

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 79.

## У БАРАЦЬБЕ ЗА УРАДЖАЙ

ЗБОР ПОПЕЛУ ▸◂ ФОТО ЎЛ. СЕМЯНЯКІ






**Апавяданьне Р. МУРАШКІ**

Малюнкі Вал. Волкава

Партсьледчы Расонскі сядзеў ля стала партколегіі ў ЦКК і слухаў задуменна, што казаў яму сакратар.

— Блытаная справа, разумееце. Адказны партработнік, стары бальшавік, загартаваны ў вагні клясавых боек з часоў падпольля, абвінавачваецца ў бюрократызьме і нават у злоўжываньні службовым становішчам. Што вы на гэта скажаце?

Але партсьледчы, выкліканы сакратаром партколегіі знарок па гэтай справе ў ЦКК, ці ня чуў, чаго ў яго пытаўся сакратар, ці ня ведаў, што адказаць, маўчаў, і позірк яго шэра-сталёвых воч блукаў дзесьці за акном. Была лёгкая марозавая раніца. Сіваваты туман-дым, як за мэрлю, пахаваў за сябе высокія камяніцы-гмахі. Высачэзныя коміны фабрык і заводаў зграмазьдзіліся наводдаль цэлаю кучаю і пашыраюць чорны густы дым. Расонскаму з трэцяга паверху добра кідалася ўсё ў вочы і, слухаючы крыху патрывожаны голас сакратара партколегіі, не хацеляся адвесьці воч ад гэтага малюнку гарадзкое раніцы.

— Разумееце,—не пачуўшы ад партсьледчага адказу, гаварыў далей сакратар,—стары падпольшчык... Зарэкамэндаваў сябе працаю з самага найлепшага боку і раптам... такая недарэчнасьць.

Апошнія словы ўзбунтавалі роўнае сузіраньне Расонскаму і вымусілі запытацца:

— Думаеце, што недарэчнасьць?

— Хто яго ведае, цяжка сьцьвярджаць што-небудзь пэўнае.

— Але-ж вы кажаце, ёсьць заключэньне ячэйкі, райкому і АКК.

— Ёсьць... І факты абвінавачваньня нібы пацьвярджаюцца. Але вы разумееце, бываюць такія двухбаковыя справы: усе акалічнасьці гаворапь за абвінавачваньне, а само жыцьцё і праца таварыша супроць. Вось тут і трэба разабрацца

Пры гэтых словах Расонскі ўжо зноў глядзеў у вакно. Яго вачом, якія азіралі, быццам з высачыні палёту аэропляна, горад аж да самае ўскраіны, дзе рэдкія нізенькія хаткі зьнікалі ў нявысокіх узгорачках прыўзгароднага саўгасу, зноў папала ў поле зроку грамада фабрычных комінаў і разам з тым падумалася:

„А сакратар, мусіць, праўду кажа". сказаў:—Дайце справу.




**Перад вачыма ў Расонскага прабягаюць адна за аднэй лічбы...**

Сакратар падаў яму тонкую ў сіненькай вокладцы справу, на якой размашлівым почаркам кідалася ў вочы прозьвішча:

Аграноўскі Васіль Андрэевіч, член УсеКП(б) з 1912 году, партбілет №...

Павольна ён перагарнуў адносьнкі, выпіскі з пратаколаў паседжаньняў і сходаў і прыпыніўся, адгарнуўшы заяву, з якое і пачалася ўся справа. Тэхнічны супрацоўнік установы, дзе працуе Аграноўскі, партыец з 1923 году, абвінавачвае апошняга ў злоўжываньні настольным званком для выклікаў супрацоўнікаў. Званкі чуюцца часта, а калі выкліканы таварыш прыходзіць, Аграноўскі пытаецца пра што-небудзь зусім непатрэбнае, без чаго можна-б абыйсьціся ў працы, ці, што радзей бывае, глядзіць з вінаватаю ўсьмешкаю і раптам просіць прабачыць яго...

Перад вачыма ў Расонскага прабягаюць адна за аднэй лічбы 1912 і 1923, потым ясна малюецца ў пакоі за сталом, закіданым паперамі, угнутая постаць яшчэ не старога чалавека. Аграноўскі.—Твар парэзаны зморшчыкамі, вочы паўпадалі глыбока, позірк чапляецца за паперы, спыняецца. Вось рука адкідае пяро, цягнецца да настольнага званка... Не сьцягнулася хвіліна, у пакой заходзіць асьцярожна чалавек. Супрацоўнік—1923. Расонскаму добра відаць, як пазірае той на Аграноўскага—няпрыязнасьць схаваная надае асаблівае выразнасьці твару супрацоўніка...

Расонскі загортвае справу, кладзе ў парыжэлы, як мышамі паабгрызваны з ражкоў, портфэль і ўстае з крэсла.

— Таварыш Расонскі... Тры дні тэрміну. Ды глядзеце, каб...

— Разумею.

— Ад папярэдняга разьведу ў значнай меры залежыць і ўся справа. Ня жартачкі—член партыі з дванаццатага году...

— Вядома. Сёньня-ж пачну разьведваць.

Партсьледчы падхапіў пад руку портфэль, кінуў з паўдарогі „бывайце" і пакінуў сакратара аднаго ў пакоі сам-на-сам з яго справамі.

---

Аграноўскі—кіраўнік аднае нелапае ўстановы прыйшоў да працы гэтага дня з вялікім спазьненьнем. Старасьвецкі гадзіньнік на сьцяне ў даўгім цёмным калідоры зайграў на 12 гадзін. Сьпяшаючы прайсьці хутчэй у свой габінэт, Аграноўскі баяўся сустрэцца з кім-небудзь: яму здавалася, што і гэты апошні невялічкі факцік уплецецца ў ланцуг тых, якія склалі з сябе няпрыемную назву справы па абвінавачваньні яго ў бюрократызьме і злоўжываньні службовым становішчам. Ня сустрэўшы нікога, ён ужо супакоіўся думкамі і, павольна распранаючыся ў габінэце і сядаючы ў крэсла, адчуваў як паступова адлягае ад сэрца нейкі невядомы няпрыемны цяжар.

„Вось табе, на яго страх, з гэтаю адказнаю працаю", падумаў. „Як гэта цяжка... Працуеш дзень, працуеш ноч, няма табе ніколі адхланку, а працы тае, дык хоць-бы на корх збавілася".

Уздумаўшы пра працу, Аграноўскі выняў з шуфляды ў стале кучу розных папер, паскладваных у вокладку з ліста чыстае белае паперы з надпісам на версе: „Папка бягучае працы". Але не пасьпеў гэта ён як сьлед прыладзіцца да чытаньня, як пад дзьверы падышлі знаёмыя крокі. Гэтыя крокі Аграноўскі добра ўведаў, у яго ўяўленьні яны цесна гэтак спляліся з тым, што назы.

ваецца справаю ў контрольных органах партыі па абвінавачваньні члена партыі... І ў той-жа час, калі адчыніліся дзьверы і ўпусьцілі вінавайцу, што выклікаў гэтае ўяўленьне Аграноўскі прыдушыў сілаю развагі і сьвядомасьці ўжо прыйшоўшую няёмкасьць, павярнуў галаву да супрацоўніка. Няпрыязнасьць з прычыны асабістых непаладак адсунулася і растала як туман. Спакойным голасам прывітаўся з супрацоўнікам. Ад гэтага спакойнага тону Аграноўскага той паменшаў, здзецца, ростам, бокам павярнуўшыся да Аграноўскага і гледзячы паўз яго ў цёмны куток, кінуў:

— Вы сёньня спазьніліся, таварыш Аграноўскі... А на нас быў налёт „лёгкае кавалерыі“... Правяралі, ці акуратна прыходзяць на работу супрацоўнікі.

Аграноўскі нічога не адказаў. Абегшы яго вокам, супрацоўнік ухмыльнуўся ледзь прыкметна і не сказаў больш нічога. Шашаль трывогі прачнуўся ад свайго сну, пачаў тачыць усталёваны спакой Аграноўскага — здалёку, паціху, упарта. Але Аграноўскі, нібы ацярэбваючыся ад невядомага яму цяжару, паварушыўся ў крэсьле. Прабегла ў галаве зморaная думка. Глянуў на бок, хацеў запытацца нечага ў супрацоўніка. Таго ня было ўжо ў габінэце.

Зморaная думка трыпеча ў галаве, пальцы павольна перагортваюць службовыя паперы, павольна цягнецца здалёку нітка ўспамінаў...

— А на нас быў налёт „лёгкае кавалерыі“.

Ён, Аграноўскі, выключаны за палітычную ненадзейнасьць з унівэрсытэту, па загаду партыі працуе агітатарам-прапагандыстым у рабочым раёне сталіцы... Арышт. Турма. Высылка. Уцёк... Вайна 1914 году. Працуе нелегальна рабочым на зьмілітарызаванай фабрыцы. Організуе па заданьні партыі баявыя дзесяткі з рабочых. Зноў арышт... Пагроза сьмерці: ваенна-палявы суд. Жыцьцё вісіць на павуціньці, вось-вось парвецца яна. Зявок аднаго жандара з канвою дае магчымасьць уцячы і гэтага разу. Кулі рэшты канвою насьцігаюць яго, раняць. Ах, як хацелася жыць тады...

Званок тэлефону—серабрысты, працяжны, перапыняе ўспаміны, абрывае іх на самым узьдыме. Неахалоджаны ў трывозе, машынальна бярэ трубку Аграноўскі. Напружанае, хваравітае „альлё“ бяжыць насустрэч другому голасу.

— Альлё. Гаворыць сакратар ячэйкі. Таварыш Аграноўскі?.. Добры дзень. Прыкрая рэч, дробязь, але прыкрая. На „вас“ сёньня быў налёт „лёгкае кавалерыі“... Падалі заяву, што вы позьніцеся на працу... На цэлых паўтары гадзіны... Альлё... Альлё...

Голас сакратара хліпануў апошнім „альлё“ ў трубку тэлефону. Аграноўскі не адказаў.

---

Пабыўшы ў сакратара ячэйкі, у якой працаваў Аграноўскі, партсьледчы Расонскі яшчэ больш усталяваўся ў сваіх сумненьнях па справе апошняга.

З вузкіх праходаў вуліц пазганяла рэдкі туман. Выблiснула з-за аблачынкі сонца, прыгрэла падшорлыя тратуары. Бралася спакваля на вясну.

Прыгожае надвор'е спрыяла ўпэўненасьці Расонскага, уцьвярдзіла яго першыя думкі па ўсёй гэтай справе. Гутарка з сакратаром і членамі бюро ячэйкі дала тое, чаго і чакаў Расонскі. Аграноўскага характарызавалі як найлепшага комуністага, як старога падпольшчыка, што перанёс ва ўсю работу адданасьць сваёй партыі. Але часта заўважалася за ім і другое: нэрвовая рэзкасьць, асабліва ў выступленьнях, якую некаторыя часам тлумачылі як „дыктатарскія замашкі“, тон яго голасу, які, здаецца, не даваў мажлівасьці пярэчыць яму, у зьвязку з заяваю аб злоўжываньні настольным званком, даваў падставу абвінаваціць у бюрократызьме.

„Уся справа ў кваліфікацыі тае ці іншае зьявы“, думаў Расонскі. „З гэтаю справаю таксама... Не абвінавацілі-ж вось Аграноўскага ў дыктатарскіх замашках... Не маглі абвінаваціць і ў бюрократызьме датуль, пакуль ня было фактаў, паданых у заяве супрацоўніка. Злоўжываньне настольным званком, выклік супрацоўнікаў без неабходнае патрэбы... Вось гэта факты, конкрэтныя факты. Важна цяпер тое, каб даць ім такую ацэнку, якую яны сваёю выніковасьцю выклікаюць. Вось што важна. Да рэчы, сёньнешні налёт „лёгкае кавалерыі“ ці заблытвае яшчэ больш справу, ці вытлумачвае яе? Сёньнешні факт павінен стаць выходным, ён мусіць прывесьці да канчатковага вырашэньня ўсяе справы. У той ці ў той бок... Нельга-ж сапраўды абвінавачваньне старога партыйца-падпольшчыка ў бюрократызьме падмацоўваць фактам спазьненьня на паўтары, на дзьве гадзіны на працу. Кажуць, што гэта сыстэматычна робіцца ім... Можа быць... Паглядзім,—пачаць трэба якраз з гэтага апошняга“.

Прыйшоўшы ва ўстанову Аграноўскага, Расонскі пабачыўся з прыбіральшчыцаю. На запытаньне Расонскага, ці чула яна, што Аграноўскага называюць быроkратам, няўцямна адказала:

— Ня чула... Які з яго бюрократ!

— Чаму гэта? — запытаўся Расонскі.

— Ды хіба-ж ён чыноўнік. Ён сам цёнгля прошў гэтых самых бюрократаў,—і на сходах, усюды.

— Як-жа не бюрократ, калі ён сёньня вось, скажам, прыйшоў на работу на дзьве гадзіны пазьней, як трэба.

— Таварыш даражэнькі мой, а ці ведаеш ты,— сурова сказала прыбіральшчыца,—а ці ведаеш ты, што ён учора да дванаццаці ночы сядзеў, працаваў! Даўно і сьлед паўстываў усіх ужо, а ён сядзеў працаваў.

„Вось ён пачатак, які трэба было знайсьці“,—падумаў Расонскі. І сказаў раўнадушна:

— Ну што-ж з таго, калі ён учора сядзеў да дванаццаці ночы?! Час устаноўлены для працы, ну і прыходзь у час.

— А калі яму можа ўдзень людзі не даюць зрабіць працы... Штодня адзін за адным прыходзяць. Дык гэта што? А ён ня



— А ці ведаеш ты, што ён учора да дванаццаці ночы сядзеў, працаваў...

хоча мо' як другія, каб праца аставалася, вось і сядзіць вечары. Ня грэх ужо і спазьніцца раніцою на гадзіну якую.

„Бюрократызм“, падумаў Расонскі, і скрыўленая ўсьмешка даткнулася твару. „Праўда, што бюрократызм“.

Ад прыбіральшчыцы Расонскі зайшоў да супрацоўніка, што падаў заяву на Аграноўскага. Ён пачаў гутарку з супрацоўнікам пра ўмовы працы, пра ўзаемаадносіны супрацоўнікаў.

— А вось, як вы лічыце, многа працы ў вас ці не?

— Ды хапае.

— Вечарамі даводзіцца працаваць?

— Не, не даводзіцца. Звыштэрміновая праца ў нас забаронена адміністрацыяй. Кажуць, каб упраўляліся ўдзень, —рэжуць выдаткі.

Супрацоўнік падазрона зірнуў на Расонскага, якога ня знаў, запытаўся:

— Вы думаеце, гэта правільна?

— Я думаю, што вам і ўдзень не хапае работы... Вы вось газэту чыталі як я зайшоў. Дома можна пачытаць ці ў клюбе, а не на працы.

Супрацоўнік няпрыкметным рухам адсунуў ад сябе газэту, нязграбна пахіліўся на стол. А Расонскі халодным голасам сказаў:

— Я партсьледчы, вылучаны партколегіяй ЦКК па справе Аграноўскага. Скажэце адкрыта, як партыец, якія ў вас з ім узаемаадносіны?

Супрацоўнік памкнуўся быў нешта адказаць, але яго перапыніў рэзкі нэрвовы, трывожны званок з габінэту Аграноўскага. Ня гледзячы ў вочы Расонскаму, ён, ідучы на званок, сказаў мімаходзь:

— Дыхнуць не даюць гэтыя званкі!

„Ну, гэта не адказ, галубок“. І Расонскі выйшаў сьледам за супрацоўнікам.

У габінэце Расонскі застаў Аграноўскага ў стане ўзвышана хваравітага прыпадку. У дзьвярох супрацоўнік ледзь ня зьбіў з ног Расонскага, бягучы назад, але заўважыў яго і вярнуўся зноў у габінэт.

Былы вайсковы фэльдшар, Расонскі адным позіркам павёў па Аграноўскім і кінуў супрацоўніку:

— Шклянку халоднае вады... Ды выклікаць доктара!

Шклянка халоднае вады і спакойны таварыскі голас Расонскага вярнулі Аграноўскаму прытомнасьць. З дапамогаю Расонскага ён сеў у крэсла. Усё цела яго было ва ўладзе гарачкавых дрыжыкаў.

— Нічога... Нічога...—казаў Расонскі.—Больш спакою і вытрыманасьці... Траўматычны ўдар калісьці, умовы „напружанасьці працы“, згараньне організму пры рэзкай пераўтомленасьці... Нічога, абыйдзецца. Лячыцца трэба.

---



У дзьвярох супрацоўнік ледзь ня зьбіў з ног Расонскага...

Партсьледчы Расонскі зноў сядзеў у сакратара партколегіі ЦКК. Гэтага разу гаварыў Расонскі, а сакратар слухаў і вочы яго плюшчыліся ад яснага сонца, што ўпарта сьвяціла ў вакно, залівала вясновым цяплом увесь пакой.

— Затузалі Аграноўскага... Усе, разумееш, усе пруць нагрузкі—таму тое, таму гэтае, бяручы ад ячэйкі і канчаючы ЦК. Машына і тая патрабуе рэглямантацыі свае работы. А гэта-ж не машына. Гэтак у дамавіну ўвагнаць можна, а ня то што... Нябойсь на чыстцы вось не абвінавачвалі, а рабочыя-ж добра ведаюць яго. Ня было вось тае стрэмачкі, аб якую можна застраміцца, ня было за што зацяць рукі. А застрамілі-б рукі добра, каб абвінавацілі. Званкі... За званкі ўчапіліся. Каб хто сказаў —гультай, працаваць ня хоча.. Уся справа ў тым, як кваліфікаваць тую ці іншую зьяву грамадзкага жыцьця ці паводзін паасобнага чалавека. А кваліфікаваць трэба, ведаючы прычыннасьць гэтае зьявы. Бо ня трымаючыся такога прынцыпу, заедзеш зусім у процілеглы бок ад таго, куды трэба... Вось я гэтак і даю сваё заключэньне. А самому Аграноўскаму, прыватным парадкам, трэба параіць пайсьці на контрольна-мэдыцынскую камісію. Хай на курорт паедзе, адпачне, а то гэтак на глебе Nevrastenia gravis недалёка і да паралюша.

Засланяючыся далоньню ад яснага сонца, сакратар партколегіі сказаў:

— Старыя кадры згараюць на рабоце, мы яшчэ не навучыліся як сьлед берагчы іх. Мы ўмеем толькі нагружаць іх, толькі нагружаць... Нас некалі за гэта судзіць будзе патомства, як за разбазарваньне надзвычайна каштоўнае чалавечае энэргіі, энэргіі людзей, якія тварылі новую эпоху.



# Р А Д Ы Ё

МІХАСЬ КАЛЬЧУГА

Нешта сэрца ўсьмешкаю радуе,
Нешта кветніць уздым маіх дум,—
Сёньня ў гуках вясёлкавых радыё
Дні сталёвай машынай гудуць.

Звонкі сьмех навакол мяне сьцелецца,
Шмат людзей — куды вокам ня кінь...
— Што за цуд? Нават сэрцу ня верыцца?! —
З нейкім дзівам пытае Максім.

— Гэта, дзядзька, Кастрычнік усьмешкаю
Вабіць новы жыцьця пераэвон.
Рушыў вёску сталёваю сьцежкаю
На спатканьне раскованых дзён...

— Гэта думкі вялікага Леніна
Уздымаюць табе гэты цуд,
Вёска, вёска, ты сонцам усьпенена,
Ты руйнуеш мінулага бруд!..

# ПРОЛЕТАРСКІ АДКАЗ МІЖНАРОДНЫМ БАНДЫТАМ У СУТАНАХ

# Прэч папу рымскага!




Фото Ул. СЕМЕНЯКІ

# ЗДАЛЁК МЫ ВІТАЕМ ВАС

### (Ліст з Марсэлю)



**UNION DES OUVRIERS RUSSES**

du Midi de la France

**CARTE PERSONNELLE N°____**

*Membre effectif-adhérent* ________

*Adresse* ________

Signature de l'adhérent — Signature du Secrétaire

*Marseille, le* ________ 192

**Членскі білет саюзу рускіх рабочых у Францыі.**

Доўгі і шырокі цягнецца нацыянальны бульвар ад самае Капаб'еры [1]) да кварталу Першага мая—рабочага кварталу партавога гораду паўднёвае Францыі—Марсэлю. А на гэтым нацыянальным бульвары пад нумарам 58 месьціцца бістро [2]) пана Крэзо—тоўстага Крэзо, бацькі шматлікае сям'і і вялікага ахвотніка да чырвонага, як кроў „пінара" [3]).

Крэзо не комуністы і яго, вядома, нельга далучаць да прыяцеляў Савецкага Саюзу. Крэзо—дробны французскі буржуа, усе жадобы якога ня ідуць далей за мары „заграбці монэту", адбудаваць сабе ў будучым маленькі домік дзе-небудзь ля Альпійскіх гор і на старасьці гадоў рэзаць купоны облігацый, што назьбіраны за годы карчмарскае профэсіі.

Але падатковы прэс моцна б'е цяпер па кішэні пана Крэзо, шмат харошых стофранковых білетаў кожны год яму даводзіцца аддаваць фінінспэктару. Таму от пан Крэзо ў опозыцыі, ён не здаволен урадам, дзе ўсю ўладу маюць буйныя грашовыя тузы, ён амаль „рэволюцыянэр".

Вось чаму ён досыць ахвотна здае сваю вялікую залю, што месьціцца ў глыбіні карчмы, пад ленінскі куток, і на штотыднёвыя пасяджэньні „Саюзу звароту на радзіму" і „Саюзу расійскіх рабочых паўднёвае Францыі", хоць і ведае, што гэта „чырвоныя", што гэта „бальшавікі".

Урэшце, ёсьць і другая прычына, што прымушае Крэзо здаваць сваё памяшканьне „чырвоным расійцам" гораду Марсэлю... Сто франкаў, што ён атрымлівае ад праўленьня саюзу на месяц, зусім ужо не такая маленькая сума, якою можна было-б пагрэбаць.

* * *

Але што гэта за „Саюз звароту на радзіму" і „Саюз расійскіх рабочых паўднёвае Францыі"? Які палітычны твар гэтых саюзаў, хто ўваходзіць у іх склад, якія мэты на тэрыторыі французскае рэспублікі яны перад сабою маюць?

Разгром белагвардзейскіх банд Урангеля і іншых царскіх генэралаў савецкімі чырвонымі войскамі выкінуў за межы Савецкага Саюзу ня толькі абшарнікаў, капіталістых, графаў, баронаў і вышэйшае афіцэрства. Сьледам за сваімі кіраўнікамі ў паніцы ад пераможнага наступу савецкіх войск, кінулася на параходы і белагвардзейская „скацінка" — дробная інтэлігенцыя, сяляне, ніжэйшае афіцэрства, некаторы процант нават рабочых, часткова сілаю мобілізаваных у белагвардзейскія часьці, часткаю папаўшы туды па сваёй поўнай палітычнай няпісьменнасьці і неразуменьню сутнасьці здарэньняў, што адбываліся ў Савецкім Саюзе.



**Бюро юрыд. дапамогі „саюзу рускіх рабочых у Францыі".**

— Усе на параходы!—крычалі белагвардзейцы ў Крыме і на Далёкім Усходзе сваёй арміі, што ў паніцы кацілася да мора.— Бальшавікі расстраляюць вас, яны ніводнага не пакінуць жывым!

Белагвардзейскі разьлік быў просты і зразумелы. Ім трэба было прывезьці з сабою ў Эўропу як мага больш ашалелага люду, папершае, для таго, каб мець пад рукамі пакорную „скацінку" для будучых інтэрвэнцый, а па-другое, яшчэ для таго, каб на гэтай масе ўцекачоў „спэкульнуць" і выпрасіць сабе ў варожых да Савецкага Саюзу ўрадаў дапамогі, пазыкі, „цёплых мясьцінак".



**Сьпірыты ў саюзе з шпікамі шукаюць Куцепава.**

Галіполійская катарга з яе расстрэламі і зьдзекамі, галодная адседка ў розных лягерах, продаж уцекачоў партыямі белагвардзейскімі генэраламі ў рабства капіталістым на кофейныя плянтацыі ў Бразілію—усё гэта шмат якіх з „скацінкі" прымусіла падзадумацца, усё гэта шмат каму яскрава паказала ўсю агідную чорнасоценскую сутнасьць белагвардзейскіх „правадыроў", белагвардзейскай верхавінкі.

А пасьля шмат каго з іх работа на фабрыках, заводах і пабудовах у Францыі, Нямеччыне і іншых краінах зблізіла радавую эмігранцкую масу з рабочаю клясаю Захаду, прымусіла некаторую частку гэтае эміграцыі пераглядзець і свае адносіны да „барбараў-бальшавікоў".

Сярод радавое белае эміграцыі пачаўся, таксама як і ўсюды ў наш час, процэс клясавага расплastаваньня, пачалося вострае клясавае змаганьне. На бок Савецкага Саюзу сталі ўсе, што выпадкова папалі ў белыя арміі: беднякі-сяляне, серадзякі, рабочыя, вядомая частка радавога афіцэрства і інтэлігенцыі. На баку Куцепава і да яго падобных асталіся клясавыя ворагі пролетарыяту: абшарнікі, дваране, кулакі, гандляры.

Гадамі цягнуўся гэты процэс паступовага расплastаваньня... І толькі к 1925 году—году, калі Францыя прызнала Савецкі Саюз,—гэтае расплastаваньне белае эміграцыі на яе складаныя часткі выявілася канчаткова.

У Парыжы запрацавала савецкае паўпрэдзтва і генконсульства; у Парыжы пачала выдавацца штодзенная савецкая газэта „Парижский Вестник", якая ўпяршыню, пасьля гэтулькіх год харчаваньня толькі буржуазным ці белагвардзейскім друкам, расказала эмігрантам праўду пра Савецкі Саюз, пра яго дасягненьні на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, пра яго змаганьне, пра яго перамогі.

Савецкім урадам была абвешчава амністыя некаторай часткі белаэмігрантаў... Настала эпоха так званага „звароту", эпоха звароту на радзіму.

Вось тады і організаваліся ў шэрагу французскіх гарадоў: у Парыжы, у Ліоне, у Марсэлі, у Ніццы і ў іншых мясцох „Саюзы звароту на радзіму" і „Саюзы расійскіх рабочых"— організацыі, што стаяць цалкам на савецкай пляцформе, організацыі, якія пачалі ўжо адчыненае змаганьне з белагвардзейшчынай.

* * *

У кароткім лісьце няма магчымасьці апісаць вам пра ўсе этапы гэтага змаганьня, няма магчымасьці расказаць пра пэрыпэтыі яе часам вельмі драматычных эпізодаў. Асноўнаю задачаю ўсіх гэтых саюзаў было змаганьне з белагвардзейцамі за добрае імя

[1]) Капаб'ера —цэнтр Марсэля.
[2]) Бістро—карчомка.
[3]) Пінар—чырвонае віно.

Савецкага Саюзу, за выкрыцьцё перад рабочаю масаю Захаду ўсяе хлусьні і паклёпаў, што так шчыра распаўсюджваюць тут супроць рэспублікі працы абанкручаныя белагвардзейцы. Пасьля—вывучэньне ў цесным коле сваіх членаў законаў савецкае краіны, вывучэньне пяцігодкі і савецкага побыту, падрыхтоўка саміх сябе да продукцыйнае дзейнасьці ў рэспубліцы працы.

Саюзамі організоўваюцца лекцыі, даклады, дыспуты... Саюзамі організоўваюцца кароткатэрміновыя курсы, дзе члены саюзу вывучаюць політграмату, вывучаюць рамястрвы, спэцыялізуюцца. Саюзы выступаюць у якасьці абаронцаў сваіх членаў ад эксплёатацыі, яны даюць парады, консультуюць, памагаюць беспрацоўным шукаць работы.

А па нядзелях (дні адпачынку ў Францыі) члены саюзаў зьбіраюцца ў сваіх ленінскіх кутках, пяюць там савецкія песьні, чытаюць савецкую літаратуру, працуюць над чарговым выданьнем свае насьценнае газэты.

Членамі саюзаў могуць быць толькі тыя, хто цалкам прызнаў уладу саветаў, хто змагаецца ў той ці іншай сфэры за добрае імя СССР, за ўладу рабочых і сялян. Клясавыя ворагі савецкае ўлады—як пра іх даведаюцца—бязьлітасна праганяюцца з гэтых саюзаў. З пункту гледжаньня афіцыйнага гэтыя саюзы ў Францыі зьяўляюцца легальнымі. Дзе, вядома, буржуазная паліцыя рэспублікі вельмі коса глядзіць на нашу работу і толькі шукае зачэпкі, каб нас прыкрыць. У гэтым ім як мага памагаюць мясцовыя белагвардзейцы.



**Ленінскі куток саюзу рускіх рабочых у Марсэлі ў дзень сьвяткаваньня 12 гадавіны Кастрычнікаўскае рэвалюцыі.**

* * *

Французская паліцыя, зразумела, не абмяжоўваецца толькі плятонічнаю нежадобаю нашага змаганьня з белагвардзейшчынаю. Наадварот, з дзейным удзелам белаэмігрантаў, яна ўсюды, дзе толькі можа, перашкаджае нашай рабоце, прасьледуе нас. Часопіс „Наш Саюз“ (друкаваны орган савецкіх грамадзкіх організацый у Францыі) зачыняецца паліцыяй і рэдактар яго высылаецца за межы рэспублікі; нашых актывістых пазбаўляюць работы, цкуюць, арыштоўваюць, высылаюць... Нам, савецкім грамадзянам, не даюць абараняць добрае імя нашае краіны ў той час, калі, напрыклад, італійскім фашыстым у межах францускае „дэмократычнае“ рэспублікі даецца поўная воля дзейнасьці.

Цяпер, у сувязі з тым, што таемна зьнік вядомы вораг савецкае ўлады, галіполійскі кат—царскі генэрал Куцепаў, цкаваньне ўзмацнілася.

Сакратар „Саюзу звароту на радзіму“ тов. Блох арыштоўваецца на вуліцы ў Парыжы і, праз некалькі гадзін пасьля арышту, высылаецца з францускае рэспублікі. Белагвардзейцы і паліцыя старанна падрыхтоўваюць глебу, каб абвясьціць нашы організацыі незаконнымі.

Але мы—савецкія грамадзяне ў Францыі—ня трацім надзеі. Мы будзем працягваць тут, за мяжою, змаганьне супроць ворагаў савецкае краіны, супроць белагвардзейцаў.

Здалёк мы вітаем вас!

І. Ш.

## СТАЛІЦА КРАІНЫ САВЕТАЎ



Крымскі мост. Фото-эцюд.

# НА сацыялістычным шляху...

ЯЎГЕН ЖУК

Дняпро... Тут, каля мястэчка Ляды, ён не падобны на тую вузенькую вадзяную істужку, як у месцы свайго нараджэньня—Смаленшчыне. Дзесяткі кілёмэтраў адлеглась-ці зрабілі рэчышча яго шырокім, павялічылі ўзровень вады, зрабілі раку глыбокаю, бяздоннаю.

На левым беразе яго ў гэтым месцы, на 35 кілёмэтраў усьцяж ракі раскінуўся Ляднянска-Дубровенскі агра-індустрыяльны комбінат. З усходняга боку яго працякае рэчка Марэя, якая зьяўляецца прыроднай мяжою і аддзяляе агра-комбінат ад РСФСР.

Шырокі, прывольны Дняпро. Ён злучае агра-індустрыяльны комбінат з Савецкай Украінай і РСФСР. Чыгункі, якія праходзяць недалёка ад тэрыторыі агра-комбінату, зьвязваюць з цэнтральнымі гарадамі, пролетарскімі цэнтрамі Савецкага Саюзу. Усё гэта адчыняе перад Лядняншчынай вялікія пэрспэктывы.

Тут глеба ўраджайная. Сярэдні ўраджай жыта ў існуючых саўгасах і калгасах, за апошнія чатыры гады, 16—17 цэнтнэраў (100 пуд.). Ураджаі бульбы даходзяць да 1.200-2 000 пуд. з гектару.

Асабліва добра тут расьце лён. Раней, ды зараз Лядняншчына славілася добрагатунковым ільна-валакном. Апошнія гады 15% пасеўнае плошчы знаходзіцца пад культураю ільну.

У мінулыя гады Ляднянскі раён па культуры ільну займаў адно з самых відных месц на Беларусі. Штогодна з мястэчка Ляды вывозілася 500 вагонаў ільна-валакна. Гадавы зварот аднаго толькі мястэчка па вывазу сыравіны, разам з зярнёвымі культурамі, быў роўны 10 мільёнам рублёў.

Даходы былі вялікія. Але хто карыстаўся гэтымі даходамі? Хто, эксплёатуючы рабочую сілу, нажываў капіталы, смачна еў, піў ды гуляў?

Займаліся культурнай апрацоўкай ільну ў мінулым, галоўным чынам, малазямельныя сялянскія гаспадаркі. Яны арандавалі зямлю ў абшарніка, засявалі яе ільном, апрацоўвалі, палівалі сваім потам. Арэндная плата за морг зямельнае плошчы (1,25 гект.) была 100—125 рублёў на год.

Адны працавалі, другія спажывалі. Нажываў капіталы абшарнік ад арэнднай платы, нажывалі мільёны купцы-нэпманы.

Іх у Лядах было шмат. Купцы „первой гильдии“ прымалі ільна-валакно, адпраўлялі ў гарады, на фабрыкі і заводы, экспартавалі заграніцу.

Здабытыя чужым потам і крывёю мільёны знаходзілі месца для прыстасаваньня, для асалоды.



Абагулены інвэнтар колгасьнікаў.



...Пройдуць сталёвыя коні і зруйнуюць спрадвечныя межы.

У гандлярскім мястэчку Ляды ў мінулым шырока працьвітала простытуцыя. Цяжкія экономічныя ўмовы жыцьця прымушалі шукаць сродкаў для існаваньня, прымушалі прадаваць свае цела для асалоды другім. Зьвінелі кілішкі, шумела шампанскае, і пад гукі музыкі весела праводзілі час нэпманы ды абшарнікі.

Так расходаваліся здабытыя эксплёатацыяй капіталы.

* * *



Сёньня ўжо закладзены першыя цагліны.

Так было, але так няма. Засталіся толькі ўспаміны аб праклятым мінулым.

Сёньня Лядняншчына ўзышла на новы соцыялістычны шлях. Яшчэ ў 1919 годзе ў раёне было арганізавана 10 колектыўных гаспадарак, з якіх дзьве—на надзельных сялянскіх землях бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а астатнія ў былых маёнтках.

Гэта быў пачатак. Ураджайная глеба, значны процант якое занята пад культураю ільну, пастаноўка на высокую ступень жывёлагадоўлі, дзе мясцовая рагатая жывёла палепшана да швэдзкай сэмэнтальскай і галяндэрскай парод, спрыяючыя прыродныя і географічныя ўмовы высунулі задачу аб пераводзе раёну з аграрнага, у аграрна-індустрыяльны.

1 агра-індустрыяльны комбінат, які займае плошчу ў 83 тысячы гектараў, у які зараз ужо ўваходзіць каля 7 тысяч паасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак (на тэрыторыі ўсяго агра-комбінату налічваецца 8.297 двароў), мае ільнаводна-малочны ўхіл.

У колгасы пайшлі вёскі, пасёлкі, хутары; у колгас пайшоў батрак, бядняк, а за імі і серадняк.

На працягу бліжэйшых гадоў, замест гэтых хутароў, дробных пасёлкаў, у старых хатах, у якіх гараць газоўкі, вырастуць новыя дамы і электрычная энэргія. Асінбуду, які ад Паўночна-Заходняй мяжы раёну знаходзіцца на адлегласьці 8—10 кілёмэтраў, асьвяціць дамы колгасьнікаў.

Тут вырастуць ільна-апрацоўваючыя заводы, тут будуць пабудаваны прадпрыемствы па апрацоўцы малака; тут на гэтых вялізарнейшых абшарах зямлі пройдуць сталёвыя коні і зруйнуюць спрадвечныя межы.

Усяго на будаўніцтва на працягу цэлага раду гадоў мяркуецца затраціць 68.147.354 рублёў.

У склад агра-індустрыяльнага комбінату ўваходзіць ня толькі адзін Ляднянскі раён, 6 сельсаветаў Дубровенскага раёну, 1 сельсавет цалкам і частка двух другіх сельсаветаў Горацкага раёну, якія блізка падыходзяць па сваіх глебавых умовах да Ляднянскага, таксама складаюць частку агра-комбінату.

Зараз у агра-індустрыяльным комбінаце абагулена ўжо усё насеньне. Сабрана 149.448 пудоў. Да 20 лютага было абагулена 43 проценты інвэнтару колгасьнікаў.

* * *

Так працоўныя масы Лядняншчыны пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ўзышлі на соцыялістычны шлях перабудовы сельскай гаспадаркі. Пройдуць гады, вырастуць новыя соцыялістычныя фабрыкі па апрацоўцы ільну і малака.

# Разьбітая легенда

Нарыс А. ВАЛЬДЭМАРАВА

Ціхі змрок касьцёла, царквы... Строгія лікі „сьвятых". Гарэць лямпады каля абразоў. Споведзь. „Адпушчэньне грахоў" агулам і ў раздроб.

А на срэбную талерку, што стаіць тут-жа па левай руцэ ксяндза ці папа, сыплюцца грошы: медзякі, срэбра, паперкі.

— Грэшан, бацюшка, ой грэшан,—шэпча ў рэлігійным экстазе споведнік. — Віно піў, багахульстваваў, абедні наведваў не заўсёды...

— А сын што—таксама ўсё антыхрыцкія гурткі наведвае?—строга пытаецца служака божы.—Усё таксама супроць царабацюшкі ідзе? Усё кажы, чуеш, стары. Ад бога нічога не хавай..

І стары, асьлеплены сваёю верою, гаворыць... называе імёны, кажа, дзе былі сходкі. Чаго яму баяцца? У бацюшкі-ж, як на дусе—усё гаварыць можна. Споведзь—сьвятая таямніца. Ніхто апроч бога і гэтага божага служакі ніколі ня ведацьме, што гаварыў на споведзі бацюшку.

А праз пару дзён у бацькаву хату прыходзяць жандары, забіраюць сына, абшукваюць. Сына садзяць у аўтомобіль, некуды вязуць. Пасьля—суд, далёкі Сібір, іншы раз шыбельніца ў цёмную ноч на астрожным двары.

І ня ведае стары, хто даказаў на яго сына, хто расказаў жандарам... А „служака божы" ў змроку царквы ўсё „спавядае" і новыя ахвяры праз папоў і ксяндзоў пападаюцца ў лапы жандараў, жандарскае ўправы.

Так было ў Расіі да Кастрычніцкае рэволюцыі.

Так робіцца цяпер у тых краінах, дзе яшчэ пануе ўлада капіталу.

...Тысячму агнёў зьзяе царква. Сьпявае хор, або ўрачыста, там недзе наверсе, іграе вялісьцьвенныя мэлёдыі арганісты на сваім аргане. Пахкім туманам сьцелецца фіміам ля саборных скляпеньняў. І ўпарта, настойліва гудуць званы на званіцах.

— Хрыстос уваскрос, — апавяшчае апрануты ў парчу і рызы ксёндз, поп, біскуп.—Ён пацярпеў за грахі сьвету, ён загадаў вам любіць ворагаў вашых... На калені, праваслаўныя. На калені, католікі!

І падае на калені асьлеплены тонкаю рэлігійнаю пропагандаю гурт веравальнікаў.

—„Хрыстос уваскрос!" Ён загадаў вам здавальняцца малым, не зайздросьціць, не змагацца за сваю лепшую будучыню тут, на зямлі. Ён загадаў любіць ворагаў сваіх: капіталістых і банкіраў, абшарнікаў і фабрыкантаў. Ня трэба рэволюцыі, ня трэба дыктатуры пролетарыяту.

Узнагарода чакае заэксплёатаванага рабочага і селяніна ў „царстве нябесным".

Вось яна клясавая, варожая для працоўных сутнасьць усіх рэлігій, усіх без выключэньня рэлігійных аб'яднаньняў і організацый.






Уверсе: Чырвоны сьцяг над былой чыгуначнай царквою ў Менску (цяпер—клюб чыгуначнікаў. Унізе: антырэлігійны плякат на выстаўцы рабочых-фотографаў у Бэрліне. На плякаце надпіс зьверху—вытрымка з славутае прамовы папа Шэтлетра „ўваткнуць штых у цела ворага—багаўгодная справа". Унізе—„Царква—гэта мір".

* * *

А між тым Хрыста, які паводле запэўненасьці царкоўнікаў радзіўся ў Віфліеме ад „непарочнае дзевы" і ад „духа сьвятога", які быў расьпяты на крыжы, які ўваскрос і „сьмерцю сваёю сьмерць перамог", гэтага хрыста, як асобнае гістарычнае асобы ніколі ня было. Ніводзін гісторык ні словам не ўпамінае пра яго. Эвангельле-ж, на якім грунтуецца царква—гэтае эвангельле зусім не зьяўляецца неабвержаным доказам існаваньня хрыста. Ёсьць яшчэ цэлы шэраг іншых строга-навуковых доказаў, якія з неабвяргальнаю яснасьцю кажуць, што хрыстос ніколі не нараджаўся, не паміраў, а значыць — і не ўваскрасаў... Што ўся гісторыя яго жыцьця гэта толькі міт, толькі прыдуманая легенда, каб ашукваць працоўныя масы.

І нават легенда гэта ня была нечым новым, што мела-б пад сабою хоць сякі-такі гістарычны факт. Міт пра хрыста слова ў слова сьпісаны папамі з так званых „паганскіх" мітаў, апісваюць жыцьцё і сьмерць дахрысьціянскіх багоў і герояў. Таксама як нараджаўся, цярпеў, паміраў і ўваскрасаў з мёртвых хрыстос — нараджаліся, цярпелі, паміралі і ўваскрасалі іншыя богі старажытнасьці: Будда, Адоніс, Азірыс і ўсялякія іншыя. Іх таксама нараджала на сьвет „непарочная дзева", яны таксама паміралі „за грахі сусьвету" і сваім уваскрашэньнем „перамагалі сьмерць".

Міт пра нараджэньне, цярпеньне, сьмерць і ўваскрошаньне багоў—вельмі стары міт. Ён сымболізуе сабою бесьперапынную зьмену пары году, бесьперапыннасьць нараджэньня і зьнішчэньня ўсяго, што існуе.

Селянін кідае, як-бы хавае ў зямлю зерня. Гэтае зерне дае плод—значыць зерне як-бы ўваскрасае да новага жыцьця. Пасьля яно зноў „памірае" ад касы ці сярпа. Памірае на тое, каб у выглядзе хлеба даваць людзям жыцьцё. Тое самае робіцца і са зьменаю пары году, дня і ночы. Зіма зьмяняецца вясною і летам—прырода ўваскрасае. Пасьля зноў настае восень і зіма—сьмерць, на тое, каб зноў праз пару месяцаў аднавіцца да новага жыцьця.

Так, наглядаючы за бесьперапынным колаваротам у прыродзе, чалавек яшчэ дахрысьціянскае эры зрабіў міт пра бога, што церпіць і ўваскрасае. А папы праваслаўныя, ксяндзы каталіцкія, сэктанцкія „благавесьнікі" і іншыя служакі рэлігійных культаў толькі скарысталі гэты міт, каб зацямніць голавы працоўных, каб палегчыць капіталістым эксплёатацыю рабочых і сялян.

* * *

Рэлігіі ў аснове сваёй рэакцыйныя. Служакі ўсіх рэлігійных культаў—папы, ксяндзы, рабіны, сэктанцкія „благавесьнікі" заўсёды зьяўляліся і зьяўляюцца цяпер вернымі слугамі капіталу. Іхныя інтарэсы, як палітычныя,

так і эканамічныя такія самыя, як і інтарэсы абшарнікаў, фабрыкантаў, кулакоў. Ды гэта і зусім зразумела. Рэлігіі ўсіх масьцей і адценьняў прапаведваюць пакорнасьць, скруху, цярпеньне, любоў да ворагаў.

— Здавальняйся малым,—кажуць „божыя служакі", — і ты атрымаеш узнагароду ў „царстве нябесным". Не зайдросьць багатым, бо не ў багатырстве шчасьце. Цярпі, маліся, любі сваіх ворагаў...

Каму патрэбна, каму на карысьць такая пропаганда? Капіталістым, зразумела. Ім цельмі на руку, каб рабочы „любіў ворагаў сваіх", каб ён быў цярплівы і паслушны, каб ён не зайздросьціў іхнаму багацьцю, каб ён замест рэвалюцыі, замест нізрынуцьця ўлады капіталу думаў-бы толькі пра „царства нябеснае".

І капіталістыя шчодра аплочваюць „працу" сваіх верных служак-царкоўнікаў. Напрыклад, у Англіі архібіскуп кентэрбэрыйскі „зарабляе" 300 фунтаў стэрлінгаў, гэта на нашы грошы 3.000 залатых рублёў у тыдзень; біскуп лёнданскі 2.000 рублёў у тыдзень і біскуп вэнгерскі 1.300 руб. у тыдзень; біскуп Петэрборо 1.140 руб. у тыдзень і біскуп салюсбэрыйскі 1.000 руб у тыдзень. І гэта ня лічачы колёніяльных прыбыткаў, якія даюць гэтым князём царквы і землі маёнткаў, фабрыкі і заводы. Ня горш капіталістымі аплочваецца і „праца" сваіх царкоўных агентаў і ў іншых краінах капіталу: ва Францыі, Амэрыцы, Італіі. Ня горш, калі ня лепш аплочваліся ў свой час расійскім царом і нашы „бацькаўшчынскія" князі царквы—розныя мітрапаліты Антоніі, Эўлогіі, Ладымеры і Ціханы.

Адсюль зусім зразумела, чаму ўсе гэтыя царкоўнікі, у тым ліку і сэктанскія „благавесьнікі", так моцна зьвязаны з капіталізмам. Адсюль зусім зразумела, чаму яны з такою зьвярынаю ненавісьцю глядзяць на рэвалюцыю—на пролетарскую рэволюцыю.

Пролетарыяту не патрэбен рэлігійны дурман, рэлігійнае шахрайства. Сьмела, сваёю ўласнаю рукою будуе ён новае жыцьцё, не спадзяючыся ні на „госпада-бога", ні на архангелаў яго. Пролетарыяту няма ніякае рахубы аплочваць „працу" служакоў рэлігійных культаў, карміць яўных і няпрымірымых сваіх ворагаў.

Законам адлучэньня царквы ад дзяржавы пролетарская рэволюцыя адабрала ў царкоўнікаў усе прыбыткі, пазбавіла іх магчымасьці жыць і асалоджвацца жыцьцём за лік дзяржавы і гэтага ні папы, ні ксяндзы, ні рабіны забыць ніколі ня могуць.

* * *

Мы ня будзем доўга спыняцца на дзейнасьці духоўніцтва, ні ў дні Кастрычніцкае рэволюцыі, ні ў гады грамадзянскае вайны, ні ў эпоху новае эканамічнае палітыкі. Гэтыя адносіны—яўна варожыя, усім ужо даўно добра вядомы. У грамадзянскую вайну папы і іншыя царкоўнікі былі ў шэрагах белых, займаліся шпіёнствам. У эпоху соцыялістычнага будаўніцтва яны таксама ўсяляк стараюцца перашкаджаць гэтаму соцыялістычнаму будаўніцтву: агітуюць супроць колектывізацыі і коопэраваньня бядняцка-серадняцкага сялянства, спрабуюць зрываць хлебазагатоўкі, зямляўпарадкаваньне. Іншы раз займаюцца адкрытым шпіонажам на карысьць нашых клясавых ворагаў—капіталістых Захаду, як гэта было з баптыцкаю шайкаю, арыштаванай у Менску або з некалькімі ксяндзамі, арыштаванымі на Украіне.



**Галоўны равін Лёндану Гэрц выступае з сваёй антысавецкай прамовай, якой ён далучыўся да „крыжовага паходу" міжнароднае папоўшчыны супроць СССР.**



**Замежныя буржуа будуюць новыя цэрквы для абдурачваньня працоўных. На малюнку: модэль унутранага выгляду новае царквы, калі зьняць з яе купал. Царква ўся са сталі і шкла.**

Словам царкоўнікі намагаюцца з усіх сіл, каб перашкодзіць выкананьню намі ў тэрмін пляну вялікіх работ, каб сарваць будаўніцтва соцыялізму, каб падрыхтаваць, па магчымасьці, грунт да капіталістычнае рэстаўрацыі.

Наша рашучае наступленьне на рэшткі капіталізму ў краіне, ліквідацыя кулацтва як клясы, бурны рост колгасаў прыводзіць да ярасьці нашых клясавых ворагаў у сутанах і падрасьніках.

У апошні час наглядаецца актывізацыя папоўскае агітацыі ў сёлах супроць колектывізацыі, супроць уступленьня беднякоў і серадняков у колгасы. Папы разам з кулакамі распушчаюць сярод цёмнага яшчэ сялянства самыя брыдкія чуткі пра тое, што, моў, у колгасах і жонкі будуць агульныя, што колгасьнікаў „штампляюць" і, што „госпад-бог" на „тым сьвеце" жорстка пакарае веравальніка, калі ён асьмеліцца запісацца ў колектыў—увайсьці ў „савет нечасьцівых".

Клясавы вораг—царкоўнік і кулак—добра ведае, ясна бачыць, што перамога соцыялістычнага сэктару на вёсцы забясьпечана, што ліквідацыя кулацтва як клясы разбурыць усе іхныя надзеі на аднаўленьне капіталізму ў Савецкім Саюзе.

Вось чаму цяпер поп, ксёндз і кулак ідуць „ва-банк", вось чаму яны цяпер пушчаюць у ход усе сродкі—аж да падпалу колгасаў, аж да забойства вясковых грамадчыкаў, для таго, каб хоць на крыху затрымаць бурны рост колектывізацыі вясковае гаспадаркі, каб хоць на крыху затрымаць там, дзе толькі магчыма, будаўніцтва соцыялізму ў рэспубліцы працы.

— А можа,—мараць ціханька яны,—нам на дапамогу прыдуць нашы браты, што на той бок мяжы. А можа... хутка настане інтэрвэнцыя, настане „крыжовы паход" капіталістычных дзяржаў супроць рэспублікі рабочых і сялян.

* * *

У сувязі з нашым рашучым наступленьнем на рэшткі капіталізму ў краіне, у сувязі з бурным ростам бязбожжа ў сялянскіх масах і ростам колектывізму ў вясковай гаспадарцы—вельмі занепакоіліся і мракабесы на той бок межавых слупоў.

— Паход на веры,—крычаць нашы ворагі там.—У чырвонай Расіі праследуецца духоўніцтва, іх расстрэльваюць, або саджаюць у вастрогі, у Салаўкі... Трэба наступаць са зброяю ў руках супроць гэтага бязбожніцтва, трэба раз і на заўсёды скончыць з Савецкай „прапагандай".

Так піша „сьвяцейшы намесьнік апостала Пятра на зямлі" папа Рымскі ў сваёй адозьве да веравальнікаў усяго сьвету. Так моляць ангельскія і іншыя архібіскупы на антысавецкіх мітынгах у Парыжы, у Лёндане і ў іншых буйных і дробных гарадох капіталістычнае Эўропы і капіталістычнае Амэрыкі.

„Крыжовы паход" супроць СССР абвяшчаюць яны. Падрыхтоўкаю нападу на першую ў сьвеце рэспубліку працы кіруюць яны.

Чым-жа растлумачыць гэты, што распачаўся менавіта цяпер, зьвярыны вой замежных мракабесаў?

Ніякіх-жа „ганеньняў", ніякіх „масавых расстрэлаў" духоўніцтва ў нас няма і ніколі ня было. Гэта сьцьвердзілі нават у сваёй гутарцы з прадстаўнікамі замежнае прэсы кіраўнікі

Машыністы паводзіў плячыма. Цяпер за позна да зямлі, як толькі машына спыніцца, спыняць работу і помпы. За пяць хвілін карабель зашыецца і найменш палова людзей патоне... „Ехаць да зямлі,“ разважаў першы матрос, „Дзе? Берагі за крутыя! Не застаецца нічога іншага, як дасягнуць гораду, там мы будзем мець дапамогу...“ Агонь згас з лёгкім шыпеньнем. ашыністы і качагар работалі не на жыцьцё, а на сьмерць. „Пракляты чэрап“, лаяліся яны, „дзеля яго даводзіцца падыхаць“. Уверсе грала музыка, сьмяяліся людзі. Наругаючыся, скаліў зубы пазалочаны мёртвы чэрап...

Вось і горад. Сірэна выла, доўга і спуджана—змоўкне—вые зноў. Пара караблёў знаходзілася пад парай, каманда і капітаны недаўменна глядзелі: „Што з „Італіяй“? Д'ябальскі сядзіць глыбока“. Карабель прычаліў, перакінулі мосьцік. Тады—захлёбваньне—штуршок прабег па тулаву карабля—крык: „Карабель тоне!“ Жах ахапіў пасажыраў, яны кінуліся да выйсьця Карабель усё больш нахіляўся. Людзі кідаліся праз борт,—крыкі,—паніка. Чаўны адплывалі ад берагу, каб ратаваць тых, што плавалі Два караблі знаходзіліся абапал і перасаджвалі да сябе пасажыраў. Пакойна і разважна працавалі каманды сярод бязглуздай блытаніны, перашкаджалі тым, што сьлепа ад жаху кідаліся праз борт; дзеці былі перанесены. „Катлы“, падумаў спуджана капітан „катлы, калі яны разарвуцца“. І ён ня ведаў, што ўнізе ў цемры машыннага аддзяленьня, у булькаючай вадзе да поя са. са сьмерцю перад вачыма, ліхаманкава працаваў машыністы, перакруціў падважнік, адкрыў кляпан і крант. Ён змог толькі дасягнуць лесьвіцы. Апошнім прыгнуў ён на зямлю. Гудзячае лікаваньне віншавала яго, героя дня.



Сірэна загула, карабель адплыў...

Праз шумлівы натоўп неўзаметкі прынесьлі да сабору пакрытую скрыню. Нехта павёў двох дзяцей, што ўголас плакалі: матка толькі што была выцягнута. Паездка каштавала чатыры ахвяры.

На другі дзень зьявіліся газэты з вялікімі надпісамі: **„Італія“ патанула. Галава выратавана;** пад гэтым зусім дробна і няпрыкметна: 4 ахвяры.

Машыністы і матрос трапілі адзін на аднаго перад канцылярыяй карабельнай кампаніі ў той час, як яны ішлі на допыт. „Пабач“,—сказаў машыністы і махнуў газэтай,—„толькі і прысягаюцца пра нявіноўнасьць сьвятой царквы ў няшчасьці і ні слова пра ўсю бяссэнсіцу!“ Ён паляпаў па плячы: „Дай мне веры, сябра, яны патрэбны адзін аднаму!“ Але той застаўся пры сваім: „Пачакай яшчэ! Як гэта будзе ў Расіі?“

Месяцамі пазьней утварыўся конкордат; шлюб паміж фашызмам і царквой зрабіўся легальным.



Бачыш ты цяпер,—запытаўся машыністы.

Дакладна праз тры гады пасьля няшчасьця, у лютым 1930 году, аднойчы ўвечары зьвярталіся абодва прыяцелі дадому.

„Чытай“,—раптам сказаў машыністы. **„узмоцнена антырэлігійная пропаганда ў савецкай Расіі“**. У Расіі на працягу апошніх трох месяцаў закрылі 900 цэркваў і 200 кляштараў!“—„Бачыш ты цяпер?“— запытаўся машыністы. Матрос працягнуў яму руку: „Да, я бачу“.

Пераклад з нямецкай мовы **А. Б**

# РЭКОНСТРУКЦЫЯ НАСТРОЯЎ

**Поэта хвалюе яго колёрыт**
**І кожны нясьмелы крок...**
**Вечар.**
**Савецкая.**
**Мігаюць ліхтары,**
**Дакучліва—нібы знарок.**
**І кожнае вуліцы перакрыж**
**Запоўніў радыё-хрып:**
**— Пляны...**
**Дагнаць...**
**Перагнаць...**
**Перакрыць...**
**На 10,**
**На 20,**
**На 33.**
**Іду,**
**Перазвону трамвайных званкоў**
**Фізматаўцу нат ня зьлічыць.**
**Кепак,**
**Пастэркаў,**
**Капялюшоў,**
**Манто,**
**Паліто—**
**Не пералічыць.**
**Дзевяць,**
**Пачаўся абыватальскі старт;**
**Ах Жоржыкі,**
**Коржыкі—**
**Ах!!**
**Сухі вугравaты**
**Спэц-рызыкант**
**Паніку наводзіць**
**І страх.**
**— „Чулі????**
**На вуха,**
**Нікому ні-ні;**
**Ма[illegible]а,**
**Крупы,**
**Малако...**
**Продаюць у краме—**
**„НСВЫЯ АГНІ“**
**Пудру „Коці“**
**І ковэркот.**
**Чулі???**
**У Сталіна новы ўхіл,**
**Рыкаў зусім акрэп,**
**Прасьцілі Бухарыну**
**Старыя грахі**
**І нанава аб'явілі—**
**НЭП.**
**Гэта, вядома,**
**Зусім нішто,**
**Лёзунг іх будзе біт...“**
**Буліца,**
**Трамваі,**
**Крыклівы аўто,**
**Снапамі праменьні**
**З ліхтаровых арбіт.**
**Іду,**
**А ў душы—поэтычны бунт**
**Да нэрва ўсхвалёван і рад.**
**Я сёньня-ж ўступаю -**
**Ў вялікую барацьбу,**
**Ў шэрагі ударных брыгад.**
**І чую,**
**Заводы вядуць пераклік,**
**А голас іх—звонкі мэталь:**
**— Трактары,**
**Комбайны,**
**Аўтовозы—зямлі,**
**Медзь,**
**Жалеза**
**І сталь.**
**— Пляны,**
**Дагнаць...**
**Перагнаць...**
**Перакрыць...**
**новых заводаў строй...**
**Ў гарачым спаборніцтве**
**Краіна бурліць,**
**Уступіўшы ў рашучы бой.**
**І сам я ўключаю—**
**Ў сугучнасьць тэм**
**Энэргіі бунтоўны рух.**
**І сам я ўключаю**
**Пявучасьць поэм**
**У вялікі спаборніцкі круг.**
**І сам я кажу:**
**— Абыватальскі гвалт,**
**Будзе на голаву біт...**
**12 гадзін,**
**№ 1 трамвай**
**Снапамі праменьні**
**З ліхтаровых арбіт.**

М. ХВЕДАРОВІЧ

# ЦЕНЬ ХВЕДЗІ БАКУНА

НАРЫС
СЯРГЕЯ ЗНАЁМАГА

Выйдзе, бывала, Хведзя Бакун з кіёчкам у руках, у белай кашулі, стане на ўзгорку ды любуецца, гледзячы на хваляваньне каласістага жыта, што ўзрастала дзякуючы чужому поту— працы парабкоў.

...Так вось тут, на гэтым месцы, так нядаўна былі палеткі, багатыя палеткі барысаўскага мешчаніна Бакуна. Добра жылося Бакуну. Усяго хапала. „Сыт і п'ян і нос у табацы"—так казалі пра Бакуна барысаўцы.

Але Кастрычнік у структуры гаспадаркі Бакуна зрабіў невялічкія зьмены. Зусім невялічкія. Бакуна аслабанілі ад зямлі. І больш нічога. Праўда, Бакун быў нездаволены. Бакун пісаў скаргі. Пагражаў савецкай уладзе прыходам „сваіх", але нічога не атрымалася. Не дачакаўся Бакун „сваіх", плюнуў і пайшоў на той сьвет, туды, дзе сабралася ўжо ўся трухлявая Расійская імпэрыя...

А новыя дні прынесьлі новую вялікую радасьць. Новы нябачаны імпэт, размах творчай энэргіі працоўных. З уздымам нябачна вялікім, у поце, пад сьпекай маёвага сонца распачыналіся на бакуновым полі работы... Гэта было ў 1924 г.

Зьвінелі папярочныя пілы, бомкалі цэглы-красуні, шушукалігаварылі кіркі з цэмантам, рыдлёўкі рэзалі канавы для падмуркаў.

Моцна грукалі жалезныя малаткі, апускаючыся на грудзі каменьняў, сыпаліся белыя, чыстыя, пахучыя стружкі з хваёвых смалістых бярвеньняў. Праца ішла шпарка. Расьлі сьцены новых савецкіх дамоў. Рос першы ў Беларусі рабочы пасёлак. І ён вырас. А разам з ім вырасла новая вуліца—Комунальная, абапал якой стаяць новыя дамы. Усіх дамоў у рабочым пасёлку—30. Але-ж гэта яшчэ ня ўсё. Гэта толькі пятая частка таго, што маркуецца тут пабудаваць.

* * *

У пакоях бухгальтара Н. нястрыманая духата. Паветра настолькі сьціснута, што, здаецца, вось-вось ад яго напору шыбы з вакон высыпяцца. Баіцца бухгальтар вокны адчыніць, бо можа прастыць...



Агульны від рабочага пасёлку у Віцебску (Маркаўшчына).

— Баюся, таварыш, прастуды, дужа баюся,—кажа ён мне, запрашаючы піць гарбату, такі сьмешны і сухі, нібыта Наркамземаўскі абежнік.

Мне дужа хацелася прайціся па пакоі, але гэта было немагчыма зрабіць. Нават ступіць было трудно, бо настаўленая мэбля займала амаль увесь пакой. Дзьве канапкі, дзесяць „венскіх", стол добры, дзьве этажэркі, два невялікіх столікі з рознымі прыладамі, шафа, люстэрак вялізны, насьценны гадзіньнік ды шмат чаго іншага. А на сьценах пыл, па кутках жвава павукі снуюць свае кросны, мухі павольна рухаюцца па столі.

Убачыўшы ўсё гэта, я быў зьдзіўлены. Адкуль гэта ўсё? Адкуль гэта мэбля, што сьціснула жывых людзей у вабцугі цяснаты, бруду і духаты, што прымушае гэтых людзей дрыжэць кожную хвіліну за кожную шнырачку. Адкуль гэты самавар бліскучы і шклянкі надзвычайна прыгожыя?

— Адкуль гэта ўсё ў вас?—пытаюся я.—Атрымліваеце вы ня дужа вялікую пэнсію—150 руб. на месяц. І потым—навошта вам усё гэта?

Ад зьдзіўленьня бухгальтар перарабіўся ў вялікі пытальнік і, паставіўшы шклянку на стол, адказаў:

— Ажаніўся я нядаўна, да жаніцьбы жыў дзе і як папала. Ня піў, ня гуляў, грошы зьбіраў і ўсё для таго, каб хоць вось цяпер пажыць так, як жывуць „прыстойныя людзі". Есьці з жонкай мы шмат ня любім, па шклянцы гарбаты вып'ем, ды гатлеем увесь дзень. Да ўсяго гэтага дзьве дзяўчыны кватаруюць у мяне, ад іх яшчэ на месяц прыпадае рублёў 25. Часам звыштэрмінова папрацую за дазволам шаноўнага дырэктара, вось так адно да другога, а пад канец глядзіш і зьбярэцца сотня.

За сьцяной хтосьці стукнуў дзьвярыма.

— Мабыць, Астап зьвярнуўся—прамовіў бухгальтар,—мусіць вы да яго пажадаеце зайсьці, пагутарыць і паглядзець, як жыве наш пролетары.

З радасьцю выйшаў я на вуліцу. З радасьцю пакінуў мяшчанскае гняздо—турму для здаровага чалавека. А на двары было так добра. Сыпаўся белы, мяккі сьняжок, а з новабарысаўскіх прадпрыемстваў даносілася рытмічная гутарка матораў і звонкі посьвіст піл-цыркулярак

* * *

Астаповіч працуе на „Чырвонай Бярэзіне" ўжо 20 год. Тры гады, як у яго памерла жонка. Тры гады, як ён жыве ў рабочым пасёлку. Пакоі Астаповіча шмат чым адрозьніваюцца па сваім абсталяваньні ад пакояў суседа-бухгальтара. Белай паперай, а каля нізу газэтамі абклеены сьцены. Падлога падмецена. У вакне фортка адчынена. Чыста. Бадзёра. І лёгка дыхаецца. Тры простых табурэткі, стол. На сьценах портрэты: Ленін, Сталін, Маркс.

За сталом сядзіць невялічкі хлопчык і пільна на белай паперы рысуе геомэтрычныя фігуры. Сачу вачыма за Астаповічам. Ён штосьці ўглядаецца ў портрэты і раптам пытаецца ў хлопчыка-сына:

— Моця, што гэта, сынку, нешта Сталін памаладзеў? Портрэт аж блішчыць.

— А няўжо вы, татка, дагэтуль не заўважылі? Гэта-ж я нашага Вісарыонача, у гонар яго пяцідзесяцігодзьдзя, чысьценька выцер, а то ён быў крыху закурыўся пылам.

Заняўшыся гутаркай з сынам, Астаповіч зусім забыўся на мяне. І калі, адвярнуўшыся, убачыў, што я стаю, хуценька запрасіў.

— Сядайце, таварыш. Зараз я пастаўлю самавар... Моцька, зьбегай у 49-ую краму за кілбасой...

Хлопчык выбег з хаты, а Астаповіч, настаўляючы самавар, вёў са мной гутарку:

— Бачыце, таварыш, як мы жывем у нашым пасёлку. Кепска, нават дужа кепска. Парабілі вось гэтыя асобныя хаты, далі кожнаму па два пакоі з кухняй і жыві як хочаш. Мой сусед, дык яму што, з двух пакояў зрабіў тры, кватарантаў пусьціў ды лупіць з бедных дзяўчат грошы, пакуль у сьценгазэце не прадзёрнуць!

— Я неяк не магу толкам разабрацца ў адным пытаньні,—гэта ў жыльлёвым, хутчэй у бытавым. Ці гэта толькі ў нас, ці гэта ўсюды, аб прызвычайваньні рабочых да колектыўнага жыцьця ня думаюць. Я гляджу на гэту справу так: мы цяпер шпаркім тэмпам праводзім колектывізацыю вёскі, мы—рабочая кляса,—кіраўнікі, павінны быць для вёскі прыкладам і ў шэрагу момантаў імі мы і зьяўляемся, але вось пра бытавое пытаньне гэтага нельга сказаць. У бытавым пытаньні мы пакуль-што ня прыклад. Возьмем наш пасёлак. Ну, скажэце, начорта было будаваць гэтыя мяшчанскія домікі для дзьвюх сямей? Навошта гэта асобныя кухні, гэтыя асобныя кветнікі, гародчыкі для буракоў ды капусты, навошта гэты падзел на „маё" ды „тваё"? Ці ня час прыступіць да больш актыўнага ўкараненьня ў рабочы быт новага разуменьня:—„наша"? Жыве, відаць, у некаторых нашых гаспадарніках дух Хведзі Бакуна! Трэба зараз-жа спыніць будаваньне гэтых мяшчанскіх двухкватэрных домікаў і пачаць будаваць новыя, па-новаму, па-соцыялістычнаму. Такія дамы, у якіх рабочыя масы жылі-б сумесна, адзінай сям'ёй, дзе-б яны маглі праводзіць у жыцьцё новы соцыялістычны быт! Час прыступіць да пабудовы такіх дамоў, якія-б мелі ў сваім нутры крамы і сталоўкі, клюбы і чытальні, радыё і бібліотэкі. А то што-ж, захацеў, прыкладам, цяпер прачытаць які-небудзь новы часопіс—цягніся за вярсту ў рабочы клюб, дый там не заўсёды знойдзеш усё тое, што табе патрэбна.

* * *

Я пазна выйшаў з кватэры Астаповіча і, ідучы на вакзал, узважваў кожнае слова, простае і важкае слова, сказанае ім. Я ня мог не згадзіцца з Астаповічам, Астаповіч быў праў. Наша дзяржава выдае вялікія сродкі на жыльлёвае будаўніцтва, але, будуючы жыльлё для працоўных, мы забываем на будучае, мы забываемся на неабходнасьць карэннай ломкі старых форм мяшчанскага, канарэечнага быту. Мы пры пабудове новых дамоў забываемся на тое, што пытаньні быту—гэта не апошнія пытаньні ў змаганьні за соцыялізм.

Бытавыя пытаньні, гэта—вузлавыя задачы, практычнае вырашэньне якіх патрабуе дзесяткі год. Вось чаму да ломкі старых бытавых форм жыцьця рабочых патрэбна прыступіць ужо, вось чаму сёньня патрэбна ўзмацніць змаганьне за новы соцыялістычны быт супроць старога мяшчанскага!

# Афрыканскія романтыкі

Фэльетон АЛЁШЫ

Малюнкі Я. Розанова

I.

Ян Заноза, старшыня Бабруйскага саюзу паляўнічых, чалавек, які нікога ў сьвеце ніколі не абразіў, абвёўшы прысутных старымі сьлязіўшыміся вачыма, працягваў сваю гутарку:

— Так... Не аднаго мядзьведзя забіў за свой век стары бабруйскі паляўнічы Ян Заноза.

Сказаўшы гэта, Ян Заноза спыніўся, каб перавесьці дух, які ў яго захапіла пры ўяўленьні, што ён, найбольш ціхі чалавек у акрузе, мог-бы калі-небудзь сапраўды спаткацца з мядзьведзем.

Паляўнічы Мацей Крук даўно ўжо пра сябе зайздросьціў Янку Занозе, бо хоць-жа і Мацей Крук быў не апошні паляўнічы ў акрузе, але так маніць, як старшыня, ён ня мог.

Вось чаму, зараз выслухаўшы Янку Занозу, Мацей Крук адкашляўся і, падрабляючыся пад стыль гаворкі старшыні, сказаў:

— Мацей Крук таксама не апошні паляўнічы ў Асіповіцкім раёне...

Заўважыўшы, што яго словы зрабілі пэўны ўплыў на старшыню, Мацей Крук крыху сьмялей дадаў:

—Стары Мацей Крук заўсёды быў пагрозаю для медзьвядзёў Асіповіцкага раёну...

— ...Некаторыя кабаны дык таксама ўцякалі...

Пры гэтых словах адзін з Асіповіцкіх паляўнічых, усхвалёваны сілай стылю свайго суседа, зьлёгку штурхнуў яго локцем у бок, — ведай, маўляў, нашых.

Падбадзёраны гэтым дружным гэстам, будучы ўвесь пад уплывам прыгод героя ўчарашняга кіно-сэансу „Стэнлей в дебрах Африки“, Мацей Крук дадаў:

— Можна было-б нават у кіне фільм паказваць „Мацей Крук з Асіповіч“, — ледзьве пераводзячы дыханьне ад жудаснай радасьці, сказаў Мацей Крук.

Прыціхшыя ад нечаканай баечнай прапазыцыі Мацея Крука, Асіповіцкія паляўнічыя ліхаманкава думалі.

II.

На другі дзень пасьля апісаных гутарак Белдзяржкіно атрымала тэлеграму:

> Тэрмінова вышліце кіно экспэдыцыю засьняць паляваньне медзьвядзёў ці кабаноў кропка Старшыня Бабруйскага Саюзу Паляўнічых **Ян Заноза** Кропка

У карагодзе будпічных дзён, сярод колектывізацыі, пасеўнай кампаніі, ліквідацыі кулацтва як клясы, прагучэла Афрыканская романтыка.

Романтычнае сэрца Белдзяржкіно ня вытрымала.

У карагодзе дзён паляцела адказная тэлеграма,—

> Белдзяржкіно, маўляў, шчасьліва вашымі няпрыкметнымі перамогамі. Кіно-экспэдыцыя, маўляў, выяжджае.



Сьлязяшчыміся вачыма паглядзеў старшыня Бабруйскага Саюзу паляўнічых на прыехаўшую кіно-экспэдыцыю.

— Гэта ня я даваў тэлеграму, — конфузьліва адмовіўся Ян Заноза.—Гэта ўсё непераможны Мацей Крук з Асіповіч,—сказаў ён, уздыхнуўшы ад зайздрасьці.

Чатыры дні і чатыры ночы, або, як гаварыў Ян Заноза, чатыры разы месяц праплыў па небе, а непераможны Мацей Крук усё яшчэ вадзіў кіно-экспэдыцыю па Асіповіцкаму раёну.

Раней пяты месяц усплыў на неба, чым кіно-экспэдыцыя, расчараваўшыся спаткацца з мядзьведзямі, адмовілася ад сваёй думкі засьняць новы Афрыканскі фільм „Мацей Крук з Асіповіч“.

... Так у карагодзе будпічных дзён сярод колектывізацыі, пасеўнай кампаніі, ліквідацыі кулацтва як клясы, прагучэла Афрыканская романтыка і перайшла на разгляд РСІ.

Але што бабруйскім романтыкам, старому Яну Занозе і непераможнаму Мацею Круку да героічнай прозы сёньнешніх будняў.

# МЕНСКАЯ ГАРАДЗКАЯ ЦЭНТРАЛЬНАЯ МАЛОЧНЯ

**Нарыс А. О.** **Фото Я. Мазэлева**

НА МАСКОЎСКАЙ вуліцы за чыгуначным мастом, непадалёк ад базарчыку, сярод шэра-брудных дамоў і домікаў, нібы сьнегавая вяршынка Казьбеку, бялее Цэнтральная Гарадзкая Малочня.

Малочня і разьлівачная абсталяваны па апошняму слову тэхнікі і могуць выпускаць у дзень пры аднэй зьмене 20.000 літраў.

Пабачым тыя процэсы, што вытвараюцца на заводзе.

Па-першае, усе тыя, што працуюць на заводзе, перад пачаткам працы ідуць у распранальную, дзе застаўляюць сваю адзежу, абутак, бялізну і накіроўваюцца адтуль у ванную. Пасьля мыцьця ўсе атрымліваюць спэцбялізну, вопратку і абутак—усё вымытае і прастэрылізаванае—і толькі пасьля гэтага пераходзяць да работы.

Першая вытворчая опэрацыя заводу—гэта прыём малака ад дастаўнікоў.

Мерныя бідоны з малаком спачатку ўзважваюцца, потым вызначаецца тлустасьць малака (процант тлушчу вызначае эквівалент каштоўнасьці), пасьля чаго яго выліваюць у цэнтрафугу—дзе ачышчаецца ад мэханічнага забруджваньня. Пасьля ачышчэньня малако засасваецца помпай на другі паверх.

Там яно падаграецца адпрацаваным цяплом у рэгенэратарах да 34 градусаў, з іх яно ідзе ў асноўныя награвацелі, дзе разганяецца па трубах пластом у 3 мілімэтры і бесьперастанку цячэ па іх пры тэмпэратуры ў 63 градусы. З труб нагрэтае малако паступае ў ванны дліцельнай прастэрылізацыі, у якіх пры тэмпэратуры ў 63 градусы знаходзіцца яшчэ 30 мінут.



**Цэнтральная малочня ў Менску.**

З ванны ідзе ў халадзільнік, у якім ахалоджваецца пры тэмпэратуры ад 5 да 2 градусаў. З халадзільніка малако бяжыць ці ў разьліўную, ці ў малакасхоў (ідэальная пастэрылізацыя не дапускае хаваньня малака ў адкрытых цыстэрнах). Пакуль што малако з заводу прадаецца ў бідонах. Абсталяваньне заводу дапускае яшчэ, апрача пастэрылізацыі малака, выпрацоўку кефіру, сыркоў і сьлівак.



**Мэханізаванае мыцьцё бутэлек.**



**Наліўка і закупорваньне бутэлек з пастэрылізаваным малаком.**

Колькасьць выпрацоўкі сьлівак, кефіру і сыркоў залежыць ад колькасьці сыравіны. Пры поўнай нагрузцы завод можа даць у адну зьмену—3.000 літраў. Пакуль што завод пастэрылізуе толькі 5.000 літраў у дзень, бо адчуваецца недахоп сыравіны.

Цікавы даныя досьледаў, якія вытварыў на заводзе Інстытут Санітарыі і Гігіены адносна колькасьці бактэрый у малацэ:

На кубасантымэтравую адзінку малака знойдзена:

| | |
|---|---|
| Пры прыёме малака ад дастаўнікоў . . | 1.250.000 |
| Пасьля мэханічнага ачышчэньня . . . | 1.035.000 |
| „ награваньня да 63 градусаў . . | 10.000 |
| „ ванны і ахалоджваньня ад 5 да 2 градусаў . . . . . . | 950 |
| „ баку малакасхову . . . . . | 1.700 |
| „ разьліваньня ў бідоны для крам МЦРК . . . . . . . . | 6.500 |
| Пры раздачы першых літраў з крам . | 13.000 |

З гэтай табліцы досыць яскрава бачна, што малочны завод мае далёка не апошнюю ролю ў аздараўленьні малака, але яго ён павінен даводзіць да канца, гэта значыць, каб малако, выпрацаванае заводам, закупорвалася ў шкляное судзьдзё, а не рассылалася па крамах у саракалітравых бідонах з пакрыўкамі, якія прапушчаюць паветра.

Апроч таго, продаж малака асобнымі бутэлькамі дае магчымасьць здавальняць спажыўца больш раўнамерным малаком, бо пры продажу малака з бідонаў, першы атрымлівае тлустае малако, а апошні зусім бяз тлушчаў. Па маючымся даным завод у хуткім часе пяройдзе да продажу малака ў шкляных бутэльках.

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ



Пастановаю Ураду Беларуск. ССР на пасаду Народнага Камісара Сацыяльнага Забясьпечаньня, назначаны тав. Самойлаў, рабочы чыгупачнік.



У Воршы пабудована новае прадпрыемства—мясны комбінат. На здымку—адзін з нова-пабудованых карпусоў.

Ніжэй у сярэдзіне—Арганізатары бытавае камуны камандпага складу РСЧА ў Менску т. т. Грышаеў, Чубукоў і Арлоў



Сакратар Гомельскага АК КП(б)Б т. Хлеўнікаў згодна пастановы пленуму ЦК уведзены кандыдатам у члены бюро ЦК.



На шэрагу прадпрыемстваў у Менску і на акругах, Белдзяржвыдавецтва ставіла даклады аб працы БДзВ, пасьля чаго адбываліся выступленьні пісьменьнікаў. На нашым малюнку зьлева: Якуб Колас чытае сваю поэму „На шляхох волі" рабочым заводу „Мэтпрам" у Віцебску. Ніжэй — Спатканьне пісьменьнікаў з рабочымі кардоннае ф-кі імя Сталіна ў Рагачове. У цэнтры групы—дырэктар ф-кі т. Катовіч. Направа ад яго—поэта БелАППавец т. П. Броўка, далей: яўрэйскі пролетарскі пісьменьнік т. Доўгапольскі, сакратар ячэйкі ф-кі імя Сталіна т. Круглікаў, побач з ім вышэй поэта т. Глебка.







Здача каштоўнасьцяй у фонд індустрыялізацыі. На малюнках зьверху — работнікі Менскага чыгупачнага пашт-тэлегр. аддзяленьня здаюць свае каштоўнасьці. Зьлева. І дзеці не адстаюць ад дарослых.



На заводзе „Комунар" у Менску організавалася Комуна. Рабочыя розных кваліфікацый, якія атрымліваюць розныя стаўкі, складаюць свой заробак „у агульны кацёл", а потым дзеляць іх пароўну.



У Менску ўзмоцненым тэмпам будуюцца павільёны 1-ае усебеларускае сельскагаспадарчае выстаўкі. На фото: павільён экспорту, імпорту і гандлю.

# ЗА ДВА ТЫДНІ

Нацыянальны бюджэт Польшчы напружаны да апошняга. Пілсудчыкі, якія не захоўваючыся рыхтуюцца да новых баенных авантур, выдаюць вялізарнейшыя сродкі на ваенныя патрэбы.

На чарзе новае скарачэньне выдаткаў на ўтрыманьне ніжэйшых дзяржаўных служачых, якія і без таго цьмеюць у мізэрным існаваньні. На чарзе новы падатковы нацiск на працоўных, на дробных прамыслоўцаў і гандляроў.

Расьце нэндза ў краіне.

Польская грамадзянская прамысловасьць знаходзіцца ў пэрманэнтна-крызісным стане. Расьце беспрацоўе.

Пры такіх умовах, зразумела, расьце нездавальненьне нават сярод абыватальшчыны, сярод рамесьнікаў, дробных крамнікаў.

Пры гэтых абставінах агульнага нездавальненьня распачаўся чарговы ўрадавы крызіс. Так званая „опозыцыя“, на чале якой стаяць пужлівыя, подлыя і продажныя пэпэсаўцы, вырашыла зрабіць „левы“ гэст. Сойм выразіў недавер'е аднаму з міністраў габінэту Бартэля.

А прэм'ер Бартэль загаварыў з соймам спрактыкаванай моваю свайго гаспадара—пана маршала.

Мы ня будзем паўтараць лаянкі Бартэля, але падамо ацэнку гэтага выступленьня, якую далі пэпэсаўцы. „Работнік“—цэнтральны орган ППС—у бясьсільнай злосьці скуголіў: „у сэнаце выступаў ня прэм'ер Бартэль—прыхільнік супрацоўніцтва з соймам, але Бартэль, якому абрыдзела балбатня сойму—прыкрыкнуў на дэпутатаў і адышоў у адстаўку, даўшы месца больш адкрытым і больш рашучым элемэнтам з палкоўніцкага лягеру.

Бартэль адышоў. Цікава зазначыць, пры якіх абставінах пэпэсаўцы выразілі недавер'е міністру працы Прыстору. Паседжаньне сойму мела характар сямейнае дзяльбы. У часе дыскусыі, пэпэсаўцы не сароміліся,—яны з надзвычайнай нахабнасьцю казалі, што яны галасуюць толькі супроць Прыстора, але ня супроць усяго габінэту цалкам. Продажныя пэпэсаўцы скардзіліся на тое, што Прыстор выжывае іх людзей з абмілаваных імі цёплых мясьцінак у больнічных касах.

Журналістыя і публіка, што прысутнічалі ў сойме, з цікавасьцю прыслухоўваліся да пікантных доказаў аб фінансавых махінацыях пілсудчыкаў і пэпэсаўцаў. Між іншым, у самы гарт брахлівага перагукваньня, пэпэсаўцы зноў пачалі пагражаць вывесьці справы Чэховіча на чыстую воду.

Зразумела, ніхто сур'ёзна ня думае пра сапраўднасьць опозыцыйнасьці сойму. Баючыся канчаткова згубіць давер'е мас, пэпэсаўцы імкнуцца толькі замаскаваць сваё нізьменнае, чарговае здрадніцтва.

Апошняе выступленьне Пілсудзкага паказала наколькі мізэрны спробы „опозыцыі“. Пасьля адстаўкі габінэту Бартэля, прэзыдэнт прапанаваў Пілсудзкаму заняць месца на чале ўраду, але фашысцкі дыктатар з салдацкай адкрытасьцю апавясьціў, што ён ня лічыць магчымым працаваць разам з соймам. Пілсудзкі яшчэ раз падкрэсьліў, што ён з агіднасьцю пазірае на мэтоды, што ўжываюцца парлямантамі наогул, і асабліва да мэтодаў польскага сойму. Пілсудзкі абзывае дэпутатаў сойму дурнямі, брахунамі, людзьмі, што ня маюць ані каліва гонару, якія імкнуцца выключна да свае асабістае выгады. Адносіны бессаромных дэпутатаў да дзяржаўных інтарэсаў характарызуюцца, паводле слоў Пілсудзкага, прынясеньнем прысягі ў сойме, якую яны выконваюць зусім нядбайна, з расшпіленымі нагавіцамі.

Зьдзекваючыся далей над соймам, Пілсудзкі параўноўвае дэпутатаў сойму з бессаромнымі, зашмальцаванымі запэцканымі порткамі.

— Гэтыя дэпутаты,—кажа ён,—яшчэ асмельваюцца нешта мармытаць аб прэстыжы...

„Урадавы крызіс“ зацягнуўся. Палкоўніцкая група ня цацкаецца з соймам. Фашыстым на сёньня яшчэ патрэбен сойм. Таму яны яго не разганяюць, але вядуць цьвёрды курс, які прымушае „опозыцыйных“ дэпутатаў замаўчаць.

Парлямант „прастытутак і продажных махляроў“, як назваў у свой час Пілсудзкі сойм, адразу зрабіўся маўклівым, напагатове выканаць хоць-якія ўмовы, што будуць прад'яўлены палкоўніцкай групай.

Шырокія працоўныя масы ўважліва сочаць за падзеямі ў Польшчы. Пролетарыят Польшчы, працоўныя масы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, таксама як і працоўныя Савецкага Саюзу, не памыляюцца адносна сапраўдных імкненьняў польскага фашызму. Палкоўніцкая група ўвесь час бразгоча зброяй, ні на хвіліну не пакідае думкі аб новым ваенным паходзе на СССР. Фашызм скідае маску, яму зараз ужо не патрэбны „дэмократычны“ шалом...

Эпізод з параўнаўча недалёкага мінулага. 1920-ы год. Чырвоная коньніца паіла коняй у Вісьле, у Варшаве было чутно, як гула артылерыйская страляніна. У гэты час на вуліцах Варшавы праяжджаў у аўтомобілі маршал Пілсудзкі ў суправаджэньні папскага нунцыя Раці.

Пілсудзкі і кардынал імкнуліся адnavіць баяздольнасьць дэморалізаванага польскага войска...

Сёньня кардынал Раці—папа Пій XI, які абвясьціў „крыжовы паход“ супроць рэспублікі працоўных.

А Пілсудзкі ад імя польскага фашызму запэўнівае, што на абавязках апошняга, як бачыце, ляжыць „высокая“ місія абароны капіталістычнага захаду ад комуністычнай небясьпекі.

Каленца аднаго і таго-ж ланцугу...

Урачыста пачынаў антысавецкую кампанію „яго сьвятасьць“ намесьнік Хрыста на зямлі, папа Пій XI. Але сёньня ўжо магчыма гаварыць аб фінале гэтай агіднейшай выдумкі клерыкалаў. У Нямеччыне, Ангельшчыне, Францыі, Амэрыцы, у краінах вялікіх і малых—паўсюды ініцыятараў антысавецкіх малебнаў спаткаў самы жорсткі правал. Веруючыя не напаўнялі цэркваў. Больш таго, шмат хто з веруючых, пераканаўшыся ў брудных палітычных мэтах, да якіх імкнуцца ініцыятары антысавецкага гармідару, заявілі, што яны ня хочуць больш мець ніякіх дачыненьняў да клерыкалаў.

На вялікі конфуз царкоўных пастараў на царкоўных і касьцёльных будынках зьявіліся рэволюцыйныя лёзунгі ў абарону СССР.

Шмат якія казаньні, што гаварыліся з вышыні кабэрцаў, былі прарваны абуранымі словамі протэсту тых, хто прысутнічаў.

У буйных пролетарскіх цэнтрах справа зайшла на шмат далей. На вуліцах зьявіліся колёны рабочых дэмонстрантаў з чырвонымі сьцягамі. Дэмонстранты прыпомнілі буржуазіі, што ў будучай вайне супроць СССР ёй давядзецца мець справу і з „уласным“ пролетарыятам.

Давялося выклікаць атрады паліцэйскіх для аховы царкоўных будынкаў.

Маліліся аб „абароне папранай у СССР рэлігіі“ і „добрыя“ каталікі ў Польшчы. Праўда, у Польшчы ня цацкаюцца з праваслаўнымі, зачыняюць цэрквы. На Холмшчыне з трохсот з гакам праваслаўных царквей засталося толькі дваццаць з невялічкім хвосьцікам. Астатнія былі пертвораны ў касьцёлы або былі па-просту разбураны.

Нярэдка мясцовыя ксяндзы асабіста кіравалі справай разбурэньня царквей. У самой Варшаве была таксама ліквідавана пераважная большасьць гэтых царквей. Праваслаўны сабор на Саксонскай плошчы быў разбуран пры дапамозе дынаміту. Нават праваслаўныя могілкі ў Варшаве ня былі застаўлены ў цэласьці.

Зьвярыная ненавісьць белагвардзейцаў і царкоўнікоў да рабочых і сялян СССР добра ўсім вядома. Досыць прыпомніць „ісусавы“ палкі з часоў грамадзянскай вайны. Гэтыя палкі складаліся выключна з папоў і манахаў і поруч з іншымі белагвардзейскімі палкамі біліся супроць чырвоных войск.

Раптам—які конфуз!—павадыры праваслаўнай царквы ў Польшчы часова адмовіліся ад удзелу ў антысавецкіх малебствах, якія былі організаваны польскімі ксяндзамі і рабінамі.

Вось што пісаў аб прычынах гэтай адмовы павадыр праваслаўнае царквы ў Польшчы мітрополіт Дзіонісі:

„Нашу сьвятую царкву ў Польшчы наведаў гаспод з у гэтым годзе ліхой гадзінай, роўнай забіваньню бітліемскіх младзенцаў, бо клір рымскі хоча адняць у нас палову сьвятых храмаў“.

Адмовіўшыся ад агульных малебстваў, рускія царкоўнікі тым самым падкрэсьлілі, што рымскаму папе і яго верным польскім прыяцелям не да твару роля абаронцаў рэлігіі.

Да-праўды-ж ганебны правал!...

# ЗА МЯЖОЙ











**НА МАЛЮНКУ ЗЬВЕРХУ, ЗЬЛЕВА** — вялізарны экскаватар, які працуе на вугальных капальнях у Ільлінойсе (П.А.З.Д.). Ён можа заграбсьці 26 кубамэтраў вугля і закінуць яго на вышыню, роўную сяміпавярховаму будынку. Ня гледзячы на вялізарны памер экскаватара (1.600 тон. вагі), ім лёгка кіруе адзін рабочы. НА МАЛЮНКУ ЗЬНІЗУ — узор кітайскае „тэхнікі"—прымітыўны млын, які захаваўся яшчэ ў Паўночным Кітаі. ЗЬВЕРХУ: Буржуазія рыхтуецца да вайны. Ваенізуюцца нават буржуазныя жанчыны. На фото — Галена Тайлёр, капітан каманды „Рыфль" Вашынгтонскага унівэрсытэту на практычнай падрыхтоўцы да стралковага спаборніцтва. НІЖЭЙ: дэмонстрацыя жанчын на вуліцах Каіра ў Эгіпце. СПРАВА, УВЕРСЕ—баўгарскі селянін, пабіты жандармэрыяй у часе арышту. Здымак зроблены праз 2 тыдні пасьля арышту, калі пацярпеўшы быў ужо вызвалены з астрогу і дастаўлены ў СССР адным таварышом, які ўцёк з Баўгарыі. УНІЗЕ—адзін з апошніх портрэтаў ваеннага міністра Францыі Мажыно, які вядомы катаваньнямі рэволюцыйна настроеных салдат.



# Кніжная вітрына

**С. Кудзінаў—За масавую і суцэльную колектывізацыю. БДВ. Менск. 1930 г. 143 стар. Цана 40 кап.**

Кніжка Кудзінава зьяўляецца першай спробай даць шырокі нарыс тых працэсаў, якія праводзяць Беларусь балот і хутароў у Беларусь суцэльнай колектывізацыі, Беларусь колгасаў-гігантаў і агро-індустрыяльных колгасаў-комбінатаў.

Яна зьмяшчае багата цікавага матэрыялу для кожнага работніка па калектывізацыі. У ёй досыць ясна акрэсьлены шляхі рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, шырока ахоплены задачы і перспэктывы колгаснага руху, дадзены шэраг прыкладаў з масавай і суцэльнай колектывізацыі па Савецкім Саюзе.

У канцы далучана карта раёнаў суцэльнай колектывізацыі БССР (Жыцьцё ўжо абагнала матэрыял карты).

Нізкая цана (толькі 40 кап. за кніжку ў 143 стар.) дае магчымасьць набыць яе самым шырокім колам работнікаў калгаснага руху.

**Е. Мікуліна—Спаборніцтва мас. Прадмова Сталіна. БДВ. Менск. 1930 год. 72 стар. Цана 15 кап.**

Адным з самых важных фактаў нашага будаўніцтва зьяўляецца спаборніцтва мільённых мас рабочых.




Магутны вытворчы ўздым працоўных мас ахапіў усе галіны нашае народнае гаспадаркі.

Кніжачка Мікулінай дае шэраг надзвычайна цікавых матэрыялаў з практыкі гэтага вялізарнага пад'ёму.

Соцспаборніцтва на заводзе ДЭТ, „Красном Богатыре", „Трехгорной Мануфактуре", шэрагу іншых фабрык і на вёсцы, проста і праўдзіва апісвае аўтар.

Зьвязаныя паміж сабой агульнай ідэяй, асобныя разьдзелы кніжкі паказваюць тыя глыбінёвыя працэсы вялікага ўздыму, што складаюць унутраную сутнасьць соцыялістычнага спаборніцтва.

Кніжка з цікавасьцю будзе прачытана кожным рабочым, кожным працоўным селянінам.

**С. Алымаў.—У атляснай турме** (аповесьць з кітайскага жыцьця). „Бібліотэка работніцы і сялянкі". БДВ. Менск, 1929 г. 48 стар. Цана 15 кап.




У гэтай аповесьці паказана жыцьцё кітайскае дзяўчынкі Та-цы, якую бацькі-беднякі прадалі ў дом распусты.

Доўгі час яна церпіць моўчкі зьдзекі гаспадара і гасьцей. Церпіць да таго часу, пакуль не даведваецца пра рэволюцыйны рух. У часе паўстаньня яна вырываецца з няволі і становіцца ў шэрагі барацьбітоў за вызваленьне. Сьмела і адважна ідзе на спатканьне новаму жыцьцю.

Ня гледзячы на нязусім удалы пераклад, кніжка з вялікай цікавасьцю будзе прачытана чытачом.

**Л. Чарняўская — Бязьдзетухна.** 32 стар. Цана 12 кап. **Л. Чарняўская—Падарожніца.** 15 стар. Цана 10 к. **Л. Чарняўская—Апавяданьні.** 23 стар. Ц. 10 к. **Маці.** 32 стар. Цана 12 кап.

Апавяданьні Чарняўскай, якія выйшлі паасобнымі кніжачкамі ў „Бібліотэцы работніцы і сялянкі", узяты з жыцьця працоўнае жанчыны. Аўгіньня („Бязьдзетухна"), якая ня хоча мець дзяцей ад нялюбага; студэнтка („Падарожніца") поўная жыцьцёвай радасьці, якая перадае частку гэтае радасьці, частку задору маладосьці свайму спадарожніку; Мар'я („Апавяданьні"), якая пад уплывам сьвякрухі нясе хрысьціць сваё хворае дзіця да папа; дзяўчынка Проська („Апавяданьні")—служанка папа—вось тыя жаночыя тыпы, якіх аўтарка выводзіць у сваіх апавяданьнях.




У апавяданьні „Маці" (аўтар не паказаны) паказана трагэдыя Наталкі, якая прымушана пакінуць сваё дзіця. Але інстынкт маткі перамагае і яна прызнаецца, што дзіця яе.

На жаль, ні ў адным апавяданьні ня дадзены тып новае разьнявольнае жанчыны, жанчыны актыўнай удзельніцы нашага будаўніцтва.

А такія тыпы ў беларускай літаратуры ўжо ёсьць.

**Р. Мурашка—Тысяча дзевяцьсот пяты (урыўкі з роману „Сын"). БДВ. Менск. 1930 г. 184 стар. Цана 60 кап.**

Новая кніжка Р. Мурашкі зьмяшчае 6 фрагмэнтаў з яго вялікага роману „Сын". Фрагмэнты падабраны так, што даюць шэраг яскравых малюнкаў з часоў рэволюцыі 1905 г.

Перад вачыма чытача праходзіць барацьба соцыял-дэмократаў з бундаўцамі за ўладаньне рабочай масай, расстрэл дэмонстрацыі на пляцы Віленскага вакзалу ў Менску, аграрны бунт, спровокаваны эсэрамі, барацьба соцыял-дэмократычнай дружыны са стражнікамі, разгром гэтай дружыны драгунамі.




Заключны малюнак паказвае дзеячых асоб ва ўмовах рэакцыі. Прайшло два гады пасьля разгрому і зноў пачынаюць зьбірацца, застаўшыяся ў жывых, барацьбіты, каб з новымі сіламі выступіць на змаганьне з царскім самаўладзтвам.

Эпоха 1905 г. амаль зусім не закранута ў нашай мастацкай літаратуры, а таму так прыемна аднатаваць зьяўленьне гэтай кніжкі.

Напісаная жывой мастацкай мовай, яна, безумоўна, зацікавіць самыя шырокія колы працоўных чытачоў.

**Ф. Гладкоў—Комуна „Авангард"—пераклад з расійскае мовы. БДВ. Менск. 1930 г. 38 стар. Цана 8 кап.**

Гэта брошура ўяўляе сабой нарыс вядомага расійскага пісьменьніка Гладкова (аўтара роману „Цэмэнт") аб комуне „Авангард", на Украіне.




Напісаная выдатным мастаком слова яна апавядае „казку пра сучаснае", яна хвалюе „сьціплай легендай пра будучыню".

Перад чытачом праходзяць новыя людзі, якія ва украінскіх стэпах змагаюцца і будуюць новае жыцьцё.

Кніжачка зьяўляецца ўдалым прыкладам таго, як трэба пісаць нарысы аб нашых колгасах, аб нашых дасягненьнях. Яна захапляе чытача.





# „ПРОСТЫЯ СЭРЦЫ“

З УСІХ іншых гатункаў сцэнічнага мастацтва музычная комэдыя зьяўляецца ў сілу асаблівасьцяй сваёй формы і структуры найбольш даступнай па ўспрыйманьню для сучаснага гледача. Лёгкая мэлёдычнасьць яе афармленьня, жвавасьць, спрытнасьць і непрымусовасьць яе рытмаў найбольш адпавядаюць якраз рухлівым, шпаркім тэмпам нашай сучаснасьці і гэтым менавіта тлумачыцца бязупынная папулярнасьць музычнай комэдыі сярод нашых шырокіх мас працоўнага гледача. Тым больш настойліва і востра адчуваецца ў нас неабходнасьць стварэньня сваёй савецкай музычнай комэдыі з адпаведным ідэолёгічна прыймальным зьместам, чаго, на жаль, дагэтуль яшчэ няма.

Спэктакль „Простыя сэрцы“ ў пастаноўцы БДТ2 зьяўляецца якраз першай і самастойнай, ды мы не памылімся, здаецца, калі скажам, што і ўдалай спробай стварэньня на беларускай сцэне сучаснай музычнай комэдыі,—сучаснай ня толькі па мастацкаму афармленьню і выкананьню, але і па зьместу.

Але, адначасова з бясспрэчнай вартасьцю пастаноўкі з мастацкага боку, трэба ўсё-ж такі адзначыць, што асноўны зьмест яе ня можа задаволіць цалкам нашы ідэолёгічныя запатрабаваньні, бо часткова зьяўляецца для нас ня досыць актуальным.

Галоўная мэта п'есы—змаганьне з мяшчанствам. Мы добра ведаем, што мяшчанства сапраўды зьяўляецца ў нашых умовах моцным небясьпечным ворагам. Але-ж тэатр пайшоў па лініі найменшага супраціўленьня, накіраваўшы свой агонь супроць той рознастайнасьці мяшчанства, якую ніхто ня можа лічыць сур'ёзным і дастойным увагі ворагам. Сапраўды, для каго-ж могуць быць небясьпечны ўсе гэтыя дзяканішкі, дамаўласьнікі, былыя чыноўнікі, гандляры і г. д., з іх нязбытнымі марамі аб царскім ладзе. Яны бясьпечны таму, што нікчэмны, што даўно ўжо скінуты з рахунку. Выключэньне можна зрабіць толькі для „комсамольца“ Цапкевіча, фігура якога, з гэтым трэба згадзіцца, досыць жыцьцёвая, мае грамадзкае значэньне і патрабуе да сабе пільнай увагі.

Ва ўмовах нашай прымежнай рэспублікі цікавы таксама тып Гундоўскага. Але гэты контрабандысты, афэрысты і, напэўна, шпег суседняй дзяржавы, зьяўляецца хутчэй ворагам „імпортнага“ пахаджэньня. Такім чынам, сатыра, накіраваная супроць большасьці адмоўных пэрсонажаў п'есы, зьяўляецца з палітычнага боку крыху бяззубай. Гэты гатунак мяшчан зусім ня варты той бліскучай, згубна-таленавітай насьмешкі і зьдзекау, пад якія падвёў іх тэатр. Непараўнальна карысьней было-б, напрыклад, убачыць мяшчанства ў рабочым асяродзьдзі, сярод якога яно мае яшчэ даволі моцныя пазыцыі (быт, мастацкія густы і г. д.), альбо, каб уся моц мастацкага пераканаўчасьці была-б накіравана тэатрам супроць асьвечанага, культурнага і таму сапраўды небясьпечнага мяшчанства нашых дзён. Тэатр гэтага не зрабіў, таму прыходзіцца прызнацца, што ў гэтых адносінах досыць значная проблема змаганьня з мяшчанствам тэатрам крыху зьніжана.

Але і на гэтым фоне, ня гледзячы на асобныя шурпатасьці, на якіх ня варта спыняцца, тэатр здолеў даць шэраг вельмі ўдалых з палітычнага боку сатырычных момантаў. Вельмі ўдала выкрывае тэатр сапраўдную істотнасьць замежнай „экзотыкі“, з яе знадворным бляскам, мітурой і салодкасьцю, з яе нутраной пустатой і брыдотай (мары Гундоўскага і „пекната ў комівояжорскім уяўленьні). Таксама яскравае і дасьціпнае асьвятленьне знайшлі сабе ў п'есе адмоўныя і формальныя адносіны да беларусізацыі (Бунчук з яго слоўнікам і „лявоніхай“). Тэатр удала падышоў і да такіх важных проблем, як нацыянальнае пытаньне, узаемаадносіны паміж моладзьдзю і г. д.

Да многіх момантаў п'еса падыходзіць досыць востра, хоць і павярхоўна. Шмат якія пытаньні (іх у п'есе пастаўлена ня мала) закрануты толькі зьлёгку, але хто-ж будзе сур'ёзна патрабаваць ад музычнай комэдыі паважных разважаньняў і залішняй глыбіні ў распрацоўцы матэрыялаў? Досыць і таго, што ў пастаноўцы няма палітычных памылак, што яна ідэолёгічна прыймальна, што шэраг сатырычных момантаў паданы ў ёй своечасова, яскрава і трапна.

Сцэнічны памфлет на мяшчанства не абмяжоўваецца толькі высьмейваньнем адмоўных пэрсонажаў. Варожым і комэдыйна-злосным маскам старога, цьвілага сьвету, які выходзіць з гістарычнай арэны, тэатр з няменшай таленавітасьцю паставіў насупроць новы, жвавы, жыцьцярадасны, бадзёры, дынамічны, колектыўны сьвет моладзі, які дае гледачу моцную эмоцыянальную зарадку. Здаровым і радасным зацьверджаньнем новага жыцьця вее ад удала распрацаваных масовак (добрае ўражаньне пакідаюць спортыўныя сцэны ў комсамольскім клюбе, інтэрмэдыя клюбнага спэктаклю і карнавал апошняй дзеі). Урачыстая перамога новага над старым выліваецца ў заключную сцэну комсамольскага апофэозу, упрыгожанага іскрыстым, зухлівым карнавалам і цікавымі сьветавымі эфэктамі.




„Простыя сэрцы“ зьявіліся тым бліскучым трэнаяваным матэрыялам, які даў магчымасьць выявіць здольнасьці актораў БДТ 2 у сынтэтычным спэктаклі. Пастаноўка выдзяляецца сваім бліскучым мастацкім афармленьнем і шматлікасьцю розных эфэктаў і трукаў.

Пасьпяховасьці відовішча вельмі дапамагае надзвычайная вынаходлівасьць і тонкі густ дэкоратыўнага афармленьня мастака В. Хадасевіч, працы якой наогул унесьлі шмат карыснага ў справу стварэньня сучаснага тэатральнага стылю.

Нарэшце, можна сьмела прызнаць, што „Простыя сэрцы“ зьяўляюцца, нават, упэўненым і цьвёрдым крокам наперад па шляху далейшага самастойнага творчага разьвіцьця беларускага тэатру.

**В. В.**

## ПУНКТ ГЛЕДЖАНЬНЯ НА СССР



МАЛ. Я. РАЗАНАВА

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**24 НУМАРЫ НА ГОД**

ІЛЮСТРАВАНАЯ ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ
Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ

Адрас рэдакцыі: Савецкая, 79.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** высьвятляе ў мастацкім слове і багатай ілюстрацыі рост і разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго Савецкага Саюзу, рэконструкцыю народнае гаспадаркі, посьпехі індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, шляхі культурнае рэволюцыі.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** знаёміць чытача з рэволюцыйнымі падзеямі ўсяго сьвету, а таксама і [illegible] важнейшымі зьявішчамі сусьветнай экономікі і культуры.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** зьмяшчае: апавяданьні, вершы, нарысы, падарожжы, фэльетоны, артыкулы з палітычнага, экономічнага, культурнага і мастацкага жыцьця, мастацкія навінкі, ілюстрацыі, рэпродукцыі карцін выдатнейшых мастакоў, а таксама гумарэскі, пародыі, старонкі сатыры і гумару з адпаведнымі шаржамі і карыкатурамі.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** адлюстроўвае ўсё бягучае жыцьцё мастацтва як савецкага, так і сусьветнага, найбольш буйныя зьявішчы літаратуры, тэатру і кіно.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА на 1930 год**

| | | |
|---|---|---|
| На 1 год | 3 руб. | — |
| На паўгода | 1 руб. | 50 кап. |
| На 3 месяцы | — | 75 кап. |

**Цана асобнага нумару 15 кап.**



**ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:**
Бюро падпіскі БДВ (Менск, Ленінская, 19), Цэнтральная кнігарня БДВ, усе акруговыя аддзяленьні БДВ, кнігарні ЦРК, кіёскі контрагенцтва друку, Беларускае газэтнае бюро, усе паштовыя аддзяленьні, усе лістаносцы як у гарадох, так і ў вёсках і асобы, якія маюць пасьведчаньні.

**Часопісь „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ прадаецца ўва ўсіх кнігарнях БДВ, ЦРК, кіёсках контрагенцтва друку і выдав. „Правда“, чыгуначных кіёсках, пашт. кіёсках і ўсіх газэтаносцаў ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР**

Менск, друк. БДВ, зак. № 592.

Галоўлітбел № 1031. У ліку 8.000 экз.